*Людзьмі звацца! — Янка Купала*




# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 14 верасня 1990 г. № 37 (3551) ● Цана 10 кап.


## ЗВАРОТ

### да працоўных калектываў рэспублікі

Як вядома, з 1 верасня 1990 г. пачаў ажыццяўляцца Закон аб мовах у Беларускай ССР, згодна з якім беларуская мова набыла дзяржаўны статус у суверэннай Беларускай рэспубліцы. Прыміце нашы віншаванні, паважаныя грамадзяне Беларусі, з уступленнем у сілу гэтага акта найвялікшага дзяржаўнага і грамадскага гучання і гуманістычнага зместу.

Беларуская рэспубліка, арыентуючыся на сусветную практыку, паслядоўна бярэ пад сваё апекаванне, ахову і абарону набыткі культуры і яе неад'емную частку — нацыянальную мову. Аднак бюджэтныя сродкі і матэрыяльныя рэсурсы БССР абмежаваныя — пераход да рыначнай эканомікі, ліквідацыя вынікаў чарнобыльскай катастрофы, рашэнне сацыяльна-эканамічных і экалагічных праграм патрабуюць значных высілкаў і матэрыяльных рэсурсаў. Урад рэспублікі не мае магчымасці ў кароткі тэрмін выдзеліць сродкі, якія дазволілі б значна паскорыць выкананне Дзяржаўнай праграмы па рэалізацыі Закона аб мовах у БССР.

У гэтай сувязі мы звяртаемся да працоўных калектываў рэспублікі незалежна ад ведамаснай ці пазаведамаснай прыналежнасці, да адміністрацыі прадпрыемстваў, гаспадарак, устаноў і арганізацый, а таксама кааператыўных аб'яднанняў усямерна садзейнічаць хуткаму ажыццяўленню Закона аб мовах у Беларускай ССР і адшукаць унутраныя фінансавыя сродкі і матэрыяльныя рэсурсы дзеля паскарэння паэтапнага выканання згаданай Дзяржаўнай праграмы.

Неацэнную ролю набывае актывізацыя грамадскага руху за адраджэнне беларускай мовы, у гэтай сувязі асаблівае значэнне мае наладжванне сувязі і супрацоўніцтва з Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны, а таксама аказанне матэрыяльнай падтрымкі ў яго дзейнасці (разліковы рахунак ТБМ імя Ф. Скарыны: 700510 у Белжылсацбанку, 000700704 у Беларускім аддзяленні Знешнегандальбанку СССР).

Клопат пра культуру і мову— клопат пра будучыню народа!

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ШУШКЕВІЧ С. С.**

**Намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР МАЗАЙ Н. М.**

## Прывітанне, «Бацькаўшчына»!





У панядзелак, 10 верасня, у Доме літаратара ў Мінску прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». На яе былі запрошаны прадстаўнікі ўсіх вядомых арганізатарам беларускіх зямляцтваў на тэрыторыі СССР, а таксама вядучых грамадскіх арганізацый Беласточчыны, госці са Злучаных Штатаў Амерыкі і Англіі.

Пачалася канферэнцыя з таго, што навуковы супрацоўнік Інстытута кібернетыкі Акадэміі навук БССР А. Бураўкін прачытаў верш У. Караткевіча «Дзе мой край?».

Удзельнікаў вітаў народны фальклорна-этнаграфічны ансамбль «Неруш».

Са справаздачай аб рабоце, праведзенай аргкамітэтам, і перспектывах на будучае выступіў старшыня аргкамітэта Я. Лецка.

На канферэнцыі аб задачах згуртавання гаварылі народны дэпутат СССР В. Быкаў, акадэмік Р. Гарэцкі, вядомыя навукоўцы, госці.

Утворана рада Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». На першым пасяджэнні яе старшынёй выбраны Я. Лецка, першым намеснікам В. Рагойша.

Прэзідэнтам згуртавання канферэнцыя выбрала В. Быкава.

**НАШ КАР.**

*Да сённяшніх і заўтрашніх чытачоў*

## ЦІ ПАДПІСАЛІСЯ ВЫ НА «ЛіМ»?

**Сёння «ЛіМ» мае ўжо, дзякаваць богу, нямала чытачоў. І не проста чытачоў, а самых што ні ёсць сяброў — адданых, удзячных. Яны заўжды з намі, нават калі жывуць далёка ад Беларусі.**

**Вось і днямі прыйшоў да нас ліст ад маладога настаўніка з Кіраўскай вобласці, з поўначы Расіі: «Ужо другі год зь вялікім захапленьнем чытаю ваш штотыднёвік, які мне вельмі і вельмі падабаецца, і шаснаццаці старонак мне хапае толькі на адзін вечар...»**

**Добрае слова сябра — найлепшая маральная падтрымка для ўсіх нас, хто тыдзень за тыднем шчыруе ў рэдакцыі.**

**Спадзяёмся, верым, што з новага года сяброў у нас пабольшае.**

**ЦІ НЕ ЗАБЫЛІСЯ ВЫ ПАДПІСАЦЦА НА «ЛіМ»?**

**ВЫПІСВАЙЦЕ «ЛіМ»!**

**ЧЫТАЙЦЕ «ЛіМ»!**

**ПІШЫЦЕ ў «ЛіМ»!**

**ПРЫХОДЗЬЦЕ ў «ЛіМ» са сваімі назіраннямі, прапановамі, праблемамі!**

**«ЛіМ» — газета КОЖНАГА культурнага, сумленнага, свядомага, нераўнадушнага чалавека, грамадзяніна Беларусі,**

**— нагадайце пра гэта сваім суседзям, знаёмцам, калегам.**

**ВЫПІСВАЙЦЕ «ЛіМ»**

**— і вы пераканаецеся, што газета НЕ ЗДРАДЖВАЕ сваёй пазіцыі, кіруецца ідэаламі ўсебаковага адраджэння Беларусі, выступае за галоснасць і плюралізм думак, за праўдзівасць і справядлівасць.**

**«ЛіМ» шануе голас сваіх чытачоў**

**— ВАШ ГОЛАС, і старонкі штотыднёвіка заўсёды адкрытыя для слушных і шчырых чытацкіх лістоў!**

**У вас ёсць у хаце старшакласнік ці студэнт? ВЫПІШЫЦЕ ім «ЛіМ»!**

**Хочаце зрабіць сюрпрыз сваякам? ПАДАРЫЦЕ ім падпіску на «ЛіМ»!**

**У вашага сябра дзень нараджэння, а вы не можаце знайсці падарунак? Зайдзіце на пошту, АФОРМІЦЕ ПАДПІСКУ НА «ЛіМ» — і сябра будзе добрым словам успамінаць вас увесь год!**

**У В А Г А: з новага года «ЛіМ» будзе прадавацца ў кіёсках па новай цане — 15 капеек, але кошт гадавой падпіскі НЕ ЗМЯНІЎСЯ — тыя ж 5 рублёў 16 капеек!**

**Адна газета, ВАРТАЯ МНОГІХ, — гэта «ЛіМ», і яна павінна быць У КОЖНАЙ СЯМ'І!**

# Жыць у сваім ДОМЕ

**З народным дэпутатам БССР, членам беларускай дэлегацыі на перагаворах у Маскве аб заключэнні Саюзнага дагавора Уладзімірам ЗАБЛОЦКІМ гутарыць карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» Міхась ЗАМСКІ**



**М. ЗАМСКІ: — Ёсць людзі, і іх нямала, якія пачуўшы пра чарговы міжнацыянальны канфлікт, не прамінуць, каб не заўважыць са шматзначным выразам на твары, што вось раней такога не было, бо кожны баяўся парушыць парадак, пайсці супраць улад. Не трэба быць вялікім аналітыкам, каб зразумець, што нацыянальная варожасць — з'ява сапраўды пачварная — выспела не на пустым месцы, яна з'ўляецца наступствам антынароднай, крывадушнай нацыянальнай палітыкі, якую ажыццяўляў сталінскі таталітарны рэжым. Саюз наш ператварыўся ў казарму, дзе больш як сто народаў краіны былі прапісаны насуперак іх волі і жаданню. Так што нікога не павінна здзіўляць імкненне яго насельнікаў нарэшце зажыць ва ўласным доме, зыходзячы са свайго разумення жыцця, дабрабыту, маральных каштоўнасцяў.**

**Фігуральна кажучы, ідэя ўзвядзення свайго ўласнага дома легла ў аснову Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, прынятай Вярхоўным Саветам БССР. Пастулатамі Дэкларацыі рэспублікі, як я разумею, павінны кіравацца нашы прадстаўнікі і пры заключэнні Саюзнага дагавора. Я маю рацыю, Уладзімір Мікалаевіч?**

**У. ЗАБЛОЦКІ:** — Так, свой дом, свая суверэнная дзяржава... Гэта мэта, да якой мы ідзём. Я не адкрыю Амерыкі, калі скажу, што СССР з самага пачатку свайго ўтварэння быў унітарнай, таталітарнай дзяржавай і дэклараваная Канстытуцыяй суверэннасць рэспублік была чыстай фікцыяй. Сёння, дзякуючы палітычным пераменам у краіне, калючы дрот ужо не стрымлівае волю народаў да самастойнасці, самавызначэння, сапраўднай незалежнасці. Імкненне гэтае ператварылася, як цяпер кажуць, у парад рэспубліканскіх суверэнітэтаў. Сапраўды, усе нашы рэспублікі апошнім часам дэкларавалі сваю дзяржаўную суверэннасць.

**— Нельга не заўважыць пры гэтым і выразнае жаданне рэспублік максімальна абмежаваць уладу Цэнтра, як нядаўна пісалася ў «Комсомолке», «да так званай прэзідэнцкай зоны, якая знаходзіцца ў межах Садовага кальца сталіцы».**

— Ну, гэта ўжо занадта... Але пытанняў, звязаных з заключэннем Саюзнага дагавора, узнікае шмат. Напрыклад, ці патрэбны наогул Саюз? А калі ён застанецца, дык ці будзе мець статус дзяржавы, ці з'явіцца суб'ектам міжнароднага права? Вы ж паглядзіце, кожная рэспубліка-дзяржава, зыходзячы са свайго суверэнітэту, зможа ажыццяўляць знешнюю палітыку ў адпаведнасці са сваімі інтарэсамі, прынцыпамі...

**— Сапраўды, ад імя каго тады на міжнароднай арэне будзе выступаць Саюз? Ад імя «Садовага кальца»?**

— Яшчэ адзін аспект гэтай праблемы. Калі зыходзіць з таго, што суверэнныя рэспублікі змогуць ў поўнай меры рэалізаваць сваю дзяржаўнасць, у тым ліку, як гаварылася вышэй, знешнюю палітыку, колькасць галасоў Саюза ў тым жа ААН рэзка ўзрасце.

**— Ці пажадае сусветная супольнасць прызнаць новыя дзяржаўныя суб'екты?**

— А што гэтаму можа перашкодзіць? Хіба мала за пасляваенныя гады з'явілася новых дзяржаў, якія ўсімі прызнаны? Можа ўзнікнуць і такая праблема—ці змогуць дзяржавы, якія ўвойдуць у Саюз, праводзіць палітыку калектыўнай, а не блокавай бяспекі, як зараз. Адным словам, пытанняў пакуль што больш, чым адказаў. Ясна толькі больш-менш адно —Саюзны дагавор павінен прывесці да Саюза, створанага па прынцыпе нацыянальна-дзяржаўнага ўладкавання, дзе будуць арганічна ўлічаны інтарэсы ўсіх дзяржаў, якія ў яго ўвойдуць.

**— Сляпому бачна, што адной з самых важніх прычын абвастрэння ў краіне міжнацыянальных адносін — яе катастрафічнае эканамічнае становішча. Відаць, рэспублікам трэба перш за ўсё брацца за вырашэнне эканамічных пытанняў.**

— Я глыбока перакананы што крызіс, у якім апынулася наша эканоміка, — вынік дрэннага, некампетэнтнага кіраўніцтва, зноў жа абумоўленага каманднаадміністрацыйнай сістэмай галоўным носьбітам якой з'яўляецца КПСС. І кольki б кампартыя ні дэкларавала апошнім часам сваё неўмяшальніцтва ў чыста эканамічныя гаспадарчыя справы, на самай справе такое, часцей за ўсё некампетэнтнае ўмяшальніцтва, ажыццяўляецца з ранейшым імпэтам.

**— Днямі паказвалі тэлесюжэт, прысвечаны прыезду першага сакратара ЦК Расійскай кампартыі Палазкова ў Ленінград і Ленінградскую вобласць. Трэба было назіраць, як гэты партыйны лідэр завіхаўся каля бульбаўборачнага камбайна, перабіраючы ў руках клубні. Глядзеў я на гэта, і патыхнула на мяне брэжнеўскім водарам. Колькі перабачыў я на сваім вяку раённага газетчыка тых партыйных дзеячаў, што з разумным выразам на твары давалі парады хлебаробам, калі сеяць, калі жаць, чым карміць жывёлу...**

— У выніку мы маем тое, што маем. Гэта пры вялізным багацці краіны, пры яе прыродных рэсурсах. Але якое б ты ні даў багацце дрэннаму гаспадару, усё ператворыцца ў глум. Паглядзіце, як мы распараджаемся нашым бюджэтам. З 930 мільярдаў рублёў нацыянальнага даходу мы выдаткоўваем, напрыклад, на абарону 72 мільярды. Гэта па нашых афіцыйных дадзеных, па ацэнцы ж камісіі кангрэса ЗША—240 мільярдаў, па некаторых іншых ацэнках замежных спецыялістаў выдаткі на абарону ў СССР складаюць 371 мільярд рублёў. І гэтая лічба, як я мяркую, найбольш рэальная. Або ўзяць такія факты. Дзе ж быць таму дабрабыту, калі толькі 14—16 працэнтаў вытворчых магутнасцей «працуюць» на выраб тавараў масавага ўжытку, астатнія 84—86 працэнтаў накіроўваюцца на «ўмацаванне магутнасці краіны». Гэта вялізныя выдаткі, як я ўжо гаварыў, на армію, на няўклюдную меліярацыю, на праекты, накшталт павароту паўночных рэк, БАМа, розных каналаў і да т.п. Мы хочам быць вялікай дзяржавай, але пакуль што мы вялікія толькі ў сэнсе тэрыторыі, імперскай палітыкі, страху, які наводзілі на нашых суседзяў. Вялікая краіна павінна пацвердзіць сваю вялікасць перш за ўсё высокім дабрабытам грамадзян. Канстытуцыя ЗША пачынаецца словамі: «Мы, народ Злучаных Штатаў Амерыкі...» У нас жа на першым месцы — дзяржава, інтарэсы, недатыкальнасць яе інстытутаў, кіруючай кагорты, народ жа — на апошнім месцы. У выніку, па многіх паказчыках узроўню жыцця мы плянёмся за слабаразвітымі краінамі. Па даходзе на душу насельніцтва — на 74 ці 76 месцы ў свеце. Тое самае па дзіцячай смяротнасці, працягласці жыцця і г.д. Вось такія дасягненні нашага рэальнага сацыялізму. Здавалася б, досыць. Але... Вось і нядаўна на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў СССР Рыжкоў і Абалкін па-ранейшаму дэкларавалі унітарную структуру, запрашалі зноў паэксперыментаваць з сацыялізмам. Маўляў, ранейшы сацыялізм быў благі, давайце пагуляем у другі. Як у тым анекдоце пра старшыню калгаса, які загадаў эксперыментаваць са статкам кароў, пакуль уся жывёла не сканала. Калі яму пра гэта паведамілі, ён уздыхнуў: «Шкада, а ў мяне ж засталося яшчэ шмат новых ідэй».

Вось так будзем эксперыментаваць з сацыялізмам, калі чалавецтва ўжо даўно праклала шлях да ўсеагульнага дабрабыту праз рыначныя адносіны.

**— Як пішуць у цэнтральнай прэсе, выпрацаваны два планы пераходу на рынак. Адзін урадавай камісіяй на чале з Рыжковым і Абалкіным, другі—камісіяй пад эгідай Гарбачова і Ельцына. Але, здаецца, аўтары гэтых дзвюх канцэпцый не могуць паміж сабой прыйсці да згоды.**

— З-за таго, што Цэнтр паказаў у гэтых адносінах сваю некампетэнтнасцю, а мо і нежаданне, боязь пераходзіць на кардынальныя новыя эканамічныя адносіны, рэспублікі самі сталі шукаць выйсце з гэтага, мякка кажучы, невясёлага становішча. Разумееце, нас увесь час ураўнівалі, імкнуліся апрануць у адну форму, прымушалі праводзіць эканамічную палітыку незалежна ад нацыянальных традыцый, жыццёвага побыту і г. д. Калі ж рэспублікі вызваляюцца ад путаў, якімі скаваны па нагах і руках, нехта ў новым Саюзе пойдзе хутчэй, стане багацейшы, чым іншыя.

Нам трэба выйсці на пэўны ўзровень развіцця ў межах агульнай эканамічнай прасторы, бо пакуль што мы яшчэ не можам канкурыраваць сваёй прадукцыяй на сусветным рынку. Хіба што сыравінай. Але ж не да твару сучаснай краіне гандляваць толькі нафтай, газам, драўнінай, вуглем і да т.п.

**— Вы кажаце пра вызваленне рэспублікі ад путаў. Але ж ёсць у нас сілы, якія бачаць у гэтым вызваленні пагрозу сваёй уладзе, сваім камандным структурам. Як нядаўна пісаў у «ЛіМе» Васіль Быкаў: «...у сучасных умовах у Беларусі манапольнасць КПБ застаецца рэальнасцю, якую яна (КПБ) не збіраецца ўсур'ёз парушаць». Дарэчы, у нашым беларускім парламенце кансерватары складаюць пераважную большасць.**

— Усё не так проста, як здаецца на першы погляд. Усё-такі Дэкларацыя была прынята. І, дарэчы, калі можна так сказаць, «планка» суверэнітэту ў ёй узнята вышэй, чым у расійскай і ўкраінскай Дэкларацыях аб дзяржаўнай самастойнасці.

**— Кансерватары здалі свае пазіцыі?**

— Я б не сцвярджаў так катэгарычна, але і на дэпутатаў —прадстаўнікоў партыйнага і савецкага апаратаў, ветэранскіх арганізацый у нейкай ступені паўплывала, так сказаць, навакольнае асяроддзе. Работа па выпрацоўцы Дэкларацыі вялася вельмі сур'ёзная. Размовы аб тым, што Беларусь павінна атрымаць суверэнітэт, пачалі весціся ці не адразу пасля выбараў, калі частка народных дэпутатаў аб'ядналася ў так званую Дэмакратычную плынь. Ідэя гэтая праходзіла і праз перадвыбарчыя праграмы многіх кандыдатаў у дэпутаты, у першую чаргу, прадстаўнікоў БНФ. Трэба сказаць, што спачатку прапанова абвясціць Беларусь незалежнай суверэннай дзяржавай выклікала ў некаторых кансерватыўных дэпутатаў самую негатыўную рэакцыю. Якіх толькі абвінавачванняў нам ні давялося тады пачуць — і здраднікі, і антыкамуністы, і нацыяналісты... Пэўную змену ў настрой нашых апанентаў па дэпутацкім корпусе ўнесла вестка аб прыняцці Дэкларацый аб незалежнасці расійскім і ўкраінскім парламентамі. Ход іх развваг, як я разумею, быў такі: значыць, гэтыя дэкларацыі атрымалі дазвол на самым версе, цяпер дазволена думаць не так, як дазвалялася думаць раней. А тут яшчэ Мікалай Іванавіч Дземянцей пабыў у Маскве на пасяджэнні Савета федэрацыі, дзе таксама быццам бы прымалі ідэю абвяшчэння незалежнасці рэспублік. У выніку ўсяго гэтага апаратная частка дэпутатаў вырашыла падтрымаць Дэкларацыю. Мо я трошкі ўтрырую, але сутнасць справы такая. Прыняцце Дэкларацыі я лічу адной з самых знамянальных падзей у гісторыі Беларусі.

**— Даводзіцца чуць галасы, што наша Дэкларацыя — гэта пакуль што папера, якая не мае канкрэтнага выхаду на практыку. Урэшце і сталінская канстытуцыя абвяшчала незалежнасць рэспублік, свабоду сходаў, дэманстрацый і г.д. Але ўсе гэтыя «свабоды» каштавалі не больш паперы, на якой яны былі надрукаваны.**

— У самой Дэкларацыі закладзены механізм практычнага яе ажыццяўлення. Узяць хоць бы артыкул 12, у якім запісана, што ўсе законы, якія прымаюцца ў рэспубліцы, павінны адпавядаць Дэкларацыі. На яе аснове будзе прымацца і новая Канстытуцыя БССР. Дарэчы, перад самай нашай сённяшняй сустрэчай закончылася пасяджэнне членаў апазіцыі парламента, у якую ўваходзяць дэпутаты ад БНФ, а таксама дэпутаты, аб'яднаныя ў Дэмакратычны клуб.

**— Калі не сакрэт, якія пытанні разглядала апазіцыя?**

— Ніякага сакрэту мы са сваёй дзейнасці не робім. Абмяркоўваліся першыя крокі па рэалізацыі Дэкларацыі. Нам неабходна тэрмінова прыняць пяць вельмі важных законаў — аб уласнасці, аб зямлі і землекарыстанні, аб падаткаабкладанні, аб суверэнітэце, аб фінансава-банкаўскай сістэме. Усе гэтыя законы вельмі важныя. Узяць хоць бы Закон аб грамадзянстве. У Маскве ў час перагавораў аб выпрацоўцы Саюзнага дагавора Цэнтрам быў выкладзены такі пункт гледжання: кожная рэспубліка павінна забяспечваць усе правы ўсіх грамадзян СССР. Я заўважыў, што з такім падыходам можна было пагаджацца, калі ўсе мы былі пралетарыямі, не мелі ўласнасці. Сёння, калі, згодна з Дэкларацыяй, кожны грамадзянін рэспублікі мае права на зямельны надзел, мы, натуральна, не можам зрабіць гэта ў адносінах да ўсіх прыезджых. Скажам, з таго ж Узбекістана ці Малдавіі. Нагадалі мы прадстаўнікам Цэнтра і тое, што амаль ва ўсіх цывілізаваных краінах грамадзянства імгненна нікому не даюць. У адным месцы — праз тры гады, у другім — праз пяць і г.д.

**— Ці моцна разыходзіліся на перагаворах аб саюзным дагаворы пазіцыі рэспублікі і Цэнтра?**

— Па некаторых пытаннях я, напрыклад, трымаўся дыяметральна процілеглых пунктаў гледжання. Галоўнае імкненне Цэнтра, на мой погляд, захаваць без змен існуючыя палітычныя і дзяржаўныя структуры, менавіта прэзідэнцкае праўленне, саюзныя міністэрствы і ведамствы, З'езд народных дэпутатаў і Вярхоўны Савет СССР, Пракуратуру СССР, Камітэт народнага кантролю СССР і г. д. Ён таксама мае намер захаваць агульнасаюзную ўласнасць і атрымліваць ад яе непасрэдны прыбытак. Цэнтр непахісна стаіць за свае правы на міжнароднае супрацоўніцтва ў палітыцы і эканоміцы, захоўваючы пры гэтым свой суверэнітэт на ўсёй тэрыторыі Саюза. Калі б усё гэта ўдалося ажыццявіць Цэнтру, ад аб'яўленых суверэнітэтаў рэспублік мала што застанецца!

Вось такі прыклад. У нашай рэспубліцы 54 працэнты ўсёй прамысловай вытворчасці — саюзнага падначалення. Гэта нонсенс, бо Беларусь ад тых «маскоўскіх» заводаў мае самую мінімальную карысць. Забіраючы сабе львіную долю прыбытку, цэнтральныя міністэрствы і ведамствы пакідаюць нам адзін бруд, знішчанае прыроднае асяроддзе. Нафтаперапрацоўчая прамысловасць, размешчаная на тэрыторыі рэспублікі, «выдае» 40 мільёнаў тон бензіну, газы, іншых нафтапрадуктаў пры нашай патрэбе ў 8—10 мільёнаў тон.

**— Пару гадоў назад мне давялося выязджаць у Наваполацк па лісце тутэйшых жыхароў, у якім яны скардзіліся на катастрафічную экалагічную абстаноўку ў горадзе,— вынік дзейнасці мясцовых хімічных і нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў, якія, як аказалася, належалі аж тром саюзным міністэрствам. Паспрабуй тут знайсці вінаватага.**

— Мы ж суверэнная дзяржава, і ніхто на нашай тэрыторыі не мае права самавольна, без адпаведнай кампенсацыі размяшчаць хоць тыя ж прадпрыемствы, хоць ваенныя базы. Тым не менш, на перагаворах 6 жніўня Цэнтр нам прапанаваў захаваць існуючы парадак, праўда, цяпер быццам бы прамысловасць саюзнага падначалення будзе належаць не міністэрствам, а асацыяцыям саюзнага значэння. Як кажуць, што ў лоб, што па лбе. Маецца на ўвазе, што 51 працэнт акцый павінен належаць асацыяцыям, якія фактычна будуць падначалены саюзнаму ўраду. Вось так...

**— З якой прапановай выйшлі вы?**

— Наша дэлегацыя, зыходзячы з пастулатаў Дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі, прапанавала своеасаблівы «нулявы варыянт». Згодна з ім, уся маёмасць на тэрыторыі рэспублікі, каму б яна да гэтага моманту ні належала, аб'яўляецца ўласнасцю Беларусі.

**— І як успрыняў гэты варыянт Цэнтр?**

— Нам пачалі даводзіць, што мы хочам прыбраць да рук «чужое». Тыя ж, напрыклад, аўтамабільны завод, трактарны, іншыя прадпрыемствы, будавала, маўляў, «уся краіна». Тады, сказалі мы, давайце падлічым уклад Беларусі ў стварэнне агульнасаюзнай маёмасці, яе валавога прадукта. Колькі рэспубліцы абышлося будаўніцтва БАМа, уздым казахскіх цалінных зямель, удзел у іншых «вялікіх» будоўлях. Не прэтэндуючы на сваю маёмасць у іншых рэспубліках, мы і прапанавалі «нулявы варыянт». Мы лічым

**(Працяг на стар. 13).**

# Са шляхоў крывава-дымных...

Творы пра пакутныя гады ў лагерах маюць своеасаблівы статус у сучасным грамадскім жыцці. Права на іх аўтарства сёння застаецца за тымі, хто можа раскрыць тэму знутры. Лагерная тэма гэтым падобна да тэмы ваеннай. «Чалавек на вайне»—гэтая тэма ахоплівае ўсё новыя грані чалавечага існавання ў XX стагоддзі. Гады сталінізму — гэта шматгадовая вайна бюракратыі супраць свайго народа, у якой узброеным быў адзін бок — паслухмяны перад наменклатурай апарат. Рукой карных органаў ён чыніў расправу над зняволеным народам, спісваючы ў небыццё мільёны ахвяр. У зборніку вершаў С. Грахоўскага «І радасць, і боль», бадай, ці не ўпершыню ў нашаи паэзіі выразна акрэслена сацыяльнае аблічча ветэрана гэтай перманентнай вайны:

**— Скажыце, вы не ветэран**
**вайны?**
**— Я ветэран пакутаў без віны,**
**І стаж мой — два**
**дзесяцігоддзі.**
**Пакуль нарэшце не сказалі:**
**«Годзе!**
**Ты зарабіў ударнай працаю**
**На волю «дэмабілізацыю»**
**І дымам за калючым дротам,**
**Не ный і паслухмяным будзь,**
**А што было, пра ўсё забудзь,**
**Дзе быў, не гавары ні слова,**
**Бо трапіш зноў сюды нанова».**

Не адразу загаварылі пра перажытае ў лагерах пісьменнікі, рэабілітаваныя у другой палове пяцідзесятых гадоў. Прайшлі дзесяцігоддзі, перш чым з'явіліся ўспаміны ветэранаў «пакуты без віны». Ацаніць іх па-сапраўднаму зможа той, хто зведаў у турмах голад, холад, катаванне, пагарду, здзек, перажыў пошасці. Зразумела, што размову пра лагерную мемуарыстыку нельга звесці на традыцыйныя сцежкі рэцэнзавання з заўвагамі пра адзінства формы і зместу, вартасці ці хібы кампазіцыі, стылю і г. д. Грамадская жыццядзейнасць твораў пра ГУЛАГ залежыць не ад узлёту аўтарскай фантазіі, а ад дакладнага ўзнаўлення перажытага.

У кнігу С. Грахоўскага «Споведзь» увайшлі аповесці «Зона маўчання» і «Такія сінія снягі». Пасля першай аповесці ідзе нізка вершаў «Вечная памяць», пасля другой — «Развітанне». Вершы нібы робяць абагульненне, фіксуюць працэс спасцiжэння рэчаіснасці, арганізаванай насуперак нармальнай логіцы чалавечага існавання.

С. Грахоўскі — перш за ўсё лірык, і аповесці «Зона маўчання» і «Такія сінія снягі» трэба разглядаць з улікам гэтай асаблівасці аўтарскага таленту. Лірычная проза С. Грахоўскага разам з паэтычнымі яго радкамі фіксуе не толькі сцэны з жыцця на этапах, але і этапы духоўнага вызвалення свядомасці з чэпкіх кіпцюроў утапічнага мыслення з яго наркатычным самазадавальненнем. Тыпалагічна сённяшняя мемуарыстыка далучаецца да той нацыянальнай плебейскай традыцыі, што складвалася ў Беларусі ў часы барока, калі пісаліся дыярыушы — дзённікі блуканняў па пакутах. У XIX — пачатку XX ст. яны набылі форму хронікаў, у якіх зафіксаваны шляхі станаўлення нацыянальнага інтэлігента — у перспектыве нацыянальнага героя.

Сучасная проза, у тым ліку і мемуарыстыка, можа, такім чынам, выкарыстаць багатыя здабыткі папярэдняга мастацкага даследавання эпохі, каб зняць касметычны покрыў «сацыялістычных каштоўнасцей» з розных форм сучаснага рабства. Асаблівая роля тут належыць успамінам, напісаным сумленнай рукой. Проза С. Грахоўскага якраз і адносіцца да такіх твораў. Мемуары пісьменніка напісаны без прэтэнзій на глабальнае абагульненне, але ўзноўленыя ў іх факты рэчаіснасці паўстаюць не як прыватныя «недахопы» ці «памылкі» — праз іх бачыцца характар жыццядзеяння бюракратычнай імперыі. Яна жыве тады, калі пажырае сваіх дзяцей, найперш тых, што аднесены да касты недатыкальных — «ворагаў народа».

Бюракратыя не можа існаваць, не ствараючы тэрыторыю псіхалагічнага і сацыяльнага напружання, без надзвычайнага становішча, без сістэмы лагернага рабства. Лагеры, зразумела, могуць быць з рознымі рэжымамі, але ва ўсіх лагерах ёсць адна агульная рыса: чалавек сабою не распараджаецца, ён належыць верхнім слаям каманднa-размеркавальнай сістэмы. На гэтым валоданні і трымаецца нейкі час «планавая» гаспадарка. Ліквідацыя лагера для каманднa-бюракратычнай сістэмы з'яўляецца пачаткам яе канца. Лагернік таму і прадугледжаны, што ён «ператвораны ў бяспраўную і бязмоўную рабсілу, у звычайнае цягло, у якога няма нават арыштанцкіх правоў». Аўтар «Зоны маўчання» мог у гэтым пераконвацца штохвілінна на працягу дзесяці год лагернага жыцця і доўгіх год ссылкі. «Сядзелі некалі, — чытаем у споведзі, — засуджаныя ў камеры на салдацкім пайку, чыталі кніжкі, вывучалі мовы, пісалі трактаты, раманы, як Чарнышэўскі, або паэмы, як Колас —«Новую зямлю», Марозаў і Засуліч пісалі ўспаміны і філасофскія даследаванні. Дабрачынныя таварыствы пасылалі ім перадачы і грошы, ніхто не меў права іх абразіць, назваць на «ты». Так магло быць у турмах да стварэння на зямлі прымусовых утопій. На практыцы рай, калі ў яго заганяюць дубінай, становіцца антыутопіяй, у якой дзейнічае закон спустошання. Заснавальнікі антыутопіі добра разумеюць, што іхні рай прыгожы толькі на паперы, а на справе дзяржаўныя структуры страцілі сваё прававое прызначэнне і сталі апаратам гвалтавання. Заснавальнікі утопіі адчуваюць, што яны вывелі народ за межы рэальных гістарычных магчымасцей, і таму гістарычны час нешта значыць толькі ў форме недасягальнай «светлай будучыні». Мінулае перакрэсліваецца, а сучаснасць прыносіцца ў ахвяру ўсё той жа недасяжнай «светлай будучыні». Яе фантом аздоблены прыгожай хлуснёй. Наменклатурнае кіраўніцтва ведае, што ў антыутопіі на справе існуе толькі бачнасць «непарушнага адзінства» і «класавай аднароднасці», што шанец дае толькі імгненне, наступнага ўжо можа не быць. Адгэтуль вынікае і мэта: не ўпусціць! Кожнае імгненне — барацьба за свой шанец, за сваю зверхнасць. Адгэтуль і лозунг: «Усе сілы на выкананне!» А потым на перавыкананне. У лагеры ён гучыць у сваёй аголенай сутнасці. «Па трупах пайду, а план выканаю», — так заканчвае свае заклікі да ўдарнай працы начальнік Бойчанка. Слова ў яго не разыходзіцца са справай: «І выконваў па кубаметрах драўніны і трупаў». Зразумела, да пэўнага часу: пакуль у руках улада і сыравіна — тайга на брусы і балванкі і чалавечы матэрыял на трупы. Формула «ўсе сілы на...» зручная і тым, што яна падразумявае і «ўсе сродкі». У ахвяру імгненнай выгады наменклатурнае кіраўніцтва не спыняецца перад пагрозай поўнага спустошання галоўных рэсурсаў — духоўных сіл асобы. Сабраныя ў лагер людзі — гэта дармовыя рабы, бясплатны матэрыял, з якога фарміруюцца «этапы, этапы, этапы...» «Колькі іх прыбывала на маёй памяці! Вялікія і малыя, грузінскія і малдаўскія, вайсковыя і цывільныя, знікалі, як дым, як снег пад дажджом. Прыходзілі сваімі нагамі, — вывозілі патаемна начамі шкілеты былых вучоных, чыгуначнікаў, ветэрынараў, паэтаў, карабелаў, непісьменных у зрэбніках «тракцыстаў», жонак «ворагаў народа». Былі яшчэ і этапы «з таго свету» — са знясіленага блакадай Ленінграда, этапы «ўказнікаў» — падлеткаў «з палахлівымі і галоднымі поглядамі», — што трапілі пад указ за спазненне на працу ці пропуск заняткаў у рамесным вучылішчы. Галодныя, выпаласканыя паносам, абмарожаныя, даведзеныя да пелагры лагернікі разлагаліся жывымі, пачыналі гнісці. «Да дыму і чаду ў бараку дамешваўся смурод гнілой чалавечыны». Спалі на нарах побач з нябожчыкамі, каб спажыць іхнюю лыжку баланды. Лагерны дзень пачынаўся з таго, што санітар звозіў мёртвых у так званы морг — дашчаны хлевушок: «Мёртвых расстаўляе каля сцен, свежых кладзе на заледзянелую зямлю. За тыдзень хлевушок набіваецца пад столь. Парадкуючы, Лясэр ходзіць па голых трупах у гумовых ботах, яны рыпяць і слізгаюць на заінелай скуры, трашчаць косці, санітар вядзе апошні перапіс нявольнікаў...»

Па-свойску абыходзілася з мёртвымі і Нюрка Пінчанка, якая мела абавязак вывозіць мерцвякоў з зоны. У час завірухі яна іх пастроіла ў лесе, нібы брыгаду: «Пакласці — снег замяце, не знойдзеш. Пачала ставіць, а яны пруткія, як калы, і звіняць нібы шкляныя. Паглядзела — добра стаяць. Развярнулася па астатніх. І гэтых паставіла ў другі рад. Зірнула, ну, дальбог, брыгада. Дваццаць сёмага, таго Салавейчыка, што на балалайцы іграў, спераду за брыгадзіра паставіла... Вам усё не хапае рабсілы, вось і падкінула брыгадку».

З абрывістых, але дакладных замалёвак у «Споведзі» вырысоўваецца карціна лагернага быцця-смерці, вобраз сучаснага калектыўнага рабаўладальніка. Ад сваіх папярэднікаў ён адрозніваецца тым, што не зацікаўлены ў зберажэнні рабсілы: яму яе не трэба было ні заваёўваць, ні купляць, ні вывозіць з Афрыкі. Ад клопатаў яго вызваліла даведзеная да абсалюту нацыяналізацыя і манаполія на ўсё, што створана ў краіне прыродай, розумам і рукамі чалавека. Намаганні каманднай касты зводзяцца да аднаго: браць і браць. Камандная каста не хоча і не можа чакаць міласці ад прыроды ці лёсу. Добра б было, зразумела, прайсці праз браму неўміручасці, але чалавек з наменклатуры ведае, што будучыня ў яго ненадзейная. Яму трэба браць усё ад імгнення. «Давай, давай!» — вось, бадай, ці не адзіны нязменны лозунг удасканаленай у прыстасавальніцтве партакратыі. «Не задерживай, давай», лейтматыў афіцыйна дазволенай лірыкі мінулых дзесяцігоддзяў. «Давай! Давай! Варушыся весялей!» — гэта ўжо рэфрэн з лагернага быту. «О, гэтае «давай», яно дзень у дзень, ад пад'ёму да адбою, да вызвалення або да магілы, як бізун хвошча кожнага лагерніка», — успамінае С. Грахоўскі. Артадаксальны «новояз» лагерных лідэраў даведзены ў сэнсе эканоміі сродкаў да абсалюту. «Давай» і мацюкі — «асноўны слоўны запас любога лагернага начальніка. Варта іх засвоіць, і можаш кіраваць чым захочаш». Тым не менш нават у турме сістэма не можа абысціся без аздобы. Засвоіўшы некалькі штампаў з

---

Сяргей Грахоўскі. Споведзь. Аповесці і вершы. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1990.

## ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

**Друкуючы ў свой час артыкул А. Залескага «Заганы шматтомнага выдання», мы ўсведамлялі, што аўтар не ва ўсім мае рацыю, што ў наяўнасці пэўная крытычная «ўстаноўка» з яго боку. І таму мы не здзівіліся, што ёсць навукоўцы, якія не падзяляюць такой ацэнкі «шматтомнага выдання», маюць свой погляд як на вартасці, так і на недахопы яго. Сярод іх і А. Мальдзіс, нататкі якога мы сёння змяшчаем.**

# Негістарычна, тэндэнцыйна

Ужо пры першым чытанні артыкул доктара гістарычных навук А. Залескага «Заганы шматтомнага выдання» («Літаратура і мастацтва», 20 ліпеня г. г.) выклікаў у мяне дваістыя пачуцці. Аўтар нібыта правільна ставіць пытанне пра тое, што ў васьмітомным энцыклапедычным выданні «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» мнагавата прыватных памылак, асабліва — у асвятленні «ўсенароднай барацьбы ў тыле гітлераўскіх акупантаў», і на гэтай падставе фактычна закрэслівае ўсё выданне — маўляў, яно «не атрымалася». Але ж, з другога боку, А. Залескі сам сцвярджае, што калектыў выдання «правёў вялікую работу па выяўленні і даследаванні помнікаў, выкарыстаў шматлікія архіўныя, літаратурныя крыніцы, а таксама матэрыялы, сабраныя ў час экспедыцый», што ўся праца — «новы крок у вывучэнні гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі».

Супярэчлівасць аўтарскай пазіцыі відавочная: як жа выданне «не атрымалася», калі яно ўяўляе сабой «новы крок»?! І ці можна з прыватнасцей рабіць такія абагульненні? Бо ад прыватных памылак ніхто не застрахаваны (вядома, лепш, каб іх не было). Вунь і А. Залескі піша, што Барысаў і Вілейка належаць да... Пінскай вобласці, паказанай у неіснуючым пінскім томе... Але ж, зыходзячы толькі з гэтага, я не магу закрэсліць увесь артыкул, сказаць, што ён «не атрымаўся».

Паколькі я добра ведаю, як пачынаўся «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», з якімі неймавернымі цяжкасцямі ён у «застойны» перыяд рыхтаваўся, якія перашкоды ставіліся, паколькі я сам напісаў не адзін дзесятак артыкулаў для гэтага выдання (з іх добры дзесятак быў зняты), то прыняў артыкул А. Залескага, як кажуць, блізка да сэрца. Сапраўды: «атрымалася» ці «не атрымалася»? Былі падставы вылучаць выданне на высокую прэмію ці не? Гэтыя сумненні не давалі мне спакою, і я перачытваў знішчальны артыкул зноў і зноў, імкнучыся разабрацца, што ж у ім мяне не задавальняе, што выклікае трывогу.

І нарэшце зразумеў: у артыкуле доктара гістарычных навук мяне не задавальняе агістарычнасць прэтэнзій. Да выдання, падрыхтаванага ў **застойныя** часы, прад'яўляюцца патрабаванні, ажыццявімыя толькі **сёння**. Прывяду толькі адзін прыклад з многіх. Аўтар папракае калектыў выдання ў тым, што гаворачы пра помнік разведчыкам у Заслаўі, нічога не сказалі, якім чынам загінулі чацвёра мінчан, што дапамагалі тым разведчыкам. І тут жа ўдакладняе: «Іх расстралялі ў партызанскай брыгадзе «Штурмавая» па загаду яе камандзіра Б. М. Луніна, які беспадстаўна западозрыў разведчыкаў у супрацоўніцтве з гітлераўскімі акупантамі». Удакладненне, вядома ж, слушнае. Але зрабі яго год пятнаццаць — дзесяць назад, калі рыхтавалася выданне, скажы тады, што свае парасстрэльвалі сваіх, калі здымалася з выдання (мяркую па макету брэсцкага тома) куды больш нявіннае, калі на валаску вісела ўсё выданне ўвогуле...

Так, відаць, нямногія чытачы «Літаратуры і мастацтва» ведаюць, што выданне доўгі час знаходзілася пад рэальнай пагрозай: быць або не быць?! Каму яно замінала (ды недзе замінае і цяпер)? Найперш некаторым маскоўскім даследчыкам, якія не жадалі, каб «малодшы брат» выдаў свой «Збор помнікаў» раней, чым яны. Яны загадвалі слепа трымацца іхняй метадычкі, чым, дарэчы, абумоўлены і некаторыя рэальныя хібы выдання, пра якія піша А. Залескі (не дазвалялася адзначаць артыкулам месца нараджэння выдатнага чалавека, калі яно не ўвекавечана помнікам ці дошкай).

Потым замінала манкуртам, што адмаўляліся ад сваёй спадчыны, бо ўключаны ў «Збор помнікаў» нейкі там «аб'ект» трэба было зберагаць, ахоўваць (былі выпадкі: прыязджае вечарам экспедыцыя, каб апісаць царкву, а ноччу да яе падгоняць трактар — і раніцай няма ўжо чаго абмяраць). Нарэшце, замінала артадаксальным ідэолагам, якія на абмеркаваннях пагрозліва патрабавалі скараціць да мінімума «Опіум». Калектыў выдання, найперш В. Б. Караткевіч, якая была душой калектыву (а за ёй стаяў Уладзімір Караткевіч, які сам паціху распрацоўваў канцэпцыю выдання і паціху, праз жонку, прасоўваў яе, сам ездзіў у экспедыцыі), балюча перажываў гэтыя гучныя абвінавачанні, але ўсе роўна працягваў сваю святую справу.

І вось запознены вынік (запознены, бо выхад першых тамоў свядома тармазіўся). Беларускі «Збор помнікаў» выйшаў першым у краіне і цяпер служыць узорам (няхай і недасканалым) для РСФСР і другіх рэспублік; цяпер да нас прыязджаюць, каб павучыцца методыцы. Ужо сама падрыхтоўка выдання дазволіла зберагчы ад знішчэння дзесяткі помнікаў гісторыі і культуры — і за адно гэта яно заслугоўвае нашай удзячнасці. Урэшце, мы маем шматтомны даведнік, патрэбны пры самых розных акалічнасцях. Не ведаю, як хто, але я асабіста карыстаюся ім даволі часта. І часам натыкаюся на прагалы (пра іх ужо слушна пісаў Н. Гілевіч), на памылкі. Але тут жа лаўлю сябе на «грэшнай» дум-

афіцыйнай хлусні, можна і ў турме выбіцца ў ідэолагі. Злодзей Малаканаў стаў, напрыклад, выхавальнікам, засвоіўшы наменклатурны набор новаязаўскіх штампаў: «Родине нужен лес для великих строек социализма, наш долг — дать его Стране Советов, оправдать доверие партии Ленина-Сталина, сохранившей вам жизнь, чтобы вы исправились, перевоспитались и стали честными гражданами нашей самой счастливой в мире страны».

Малаканаў штораніцы пасля свайго «акафісту» выводзіў лагернікаў у лес пад гукі мелодыі «Утро красит нежным светом стены древнего Кремля». Пад гэтую ж музыку стралкі папярэджвалі: «Шаг вправо, шаг влево... стреляю без предупреждения». Будзёнаўка, новенькі бушлат, зграбныя валёнкі з падкасанымі халяўкамі, асобная кабіна, прынесены днявальным абед — такія выгоды меў з «новоязу» Малаканаў.

*Лагерныя* мемуары незалежна ад волі аўтара паглыбляюць турэмныя матывы Ф. Багушэвіча, Ядвігіна Ш., Якуба Коласа. Чытаючы іх, міжволі ўспамінаеш славутую «Палату № 6» А. Чэхава. Логіка расчалавечання ў лагеры даведзена да *свайго вышэйшага абсурду*, які не заўсёды прадбачылі класікі, — да людаедства. Зрэшты, яно сустракалася па абодва бакі лагернага дроту. З «году вялікага пералому» пачынаўся голад у многіх вёсках Расіі і Украіны. Смерць выкошвала цэлыя вёскі. Некалькі старонак у «Споведзі» прысвечана Марыі Дарошцы з такой вёскі. Яна з'ела сваё дзіця. У лагеры былі і іншыя жанчыны, асуджаныя па гэтым жа артыкуле. А тое, што ў нябожчыкаў у лагерным «моргу» часта былі выразаны кавалкі цела, — гэта ўжо як бы і не лічылася адхіленнем ад нормы.

Рэпрэсіі культаўскага часу абясцэнілі чалавечае існаванне не толькі ў лагеры. У. Шубкін у артыкуле «Цяжкае развітанне» («Новый мир», 1989, № 4) прыводзіць дадзеныя амерыканскіх дэмографаў Барбары А. Андэрсан і Брайна Сільвера аб выніках адной з дэмаграфічных катастроф у СССР. Паводле іхніх падлікаў, з 1926 па 1939 год загінула ад 16 да 26 мільёнаў чалавек.

Заснаваная на ідэалогіі абясцэньвання агульначалавечых і нацыянальных каштоўнасцей сістэма святкавала трыумф, але ў самой урачыстасці быў закладзены пачатак канца: сістэма не мае самаадданых рыцараў. Галоўныя механікі фабрыкі смерці, работнікі следчых органаў, суда і пракуратуры, дайшлі, выконваючы планавыя заданні, да крайняга маральнага рэлятывізму. Сярод іх «высокі з шэрым тварам і цёмнымі кругамі пад вачыма» следчы Даўгаленка, «маленькі ў скураным паліце, з авечым профілем начальнік сакрэтна-палітычнага аддзела Шліфенсон», «дробненькі чарнявы старшыня з невыразным тварам» Карпік. Апошняму ў кнізе прысвечаны асобны верш:

**А вы ізноў судзілі**
**Сумленных без віны, —**
**Начальству дагадзілі,**
**Каб гінулі яны**
**У сцюжы на павале,**
**У змроку нематы,**
**На Волга-Дон канале,**
**У шахтах Варкуты.**
**А вы, нічым не мечаны,**
**Звычайны едачок,**
**Скажыце, чалавечынай**
**Не пахне балычок?**
**І не хавайце вочы,**
**Відаць, хто вы такі...**
**Скажыце, вас уночы**
**Не будзяць мерцвякі?**
**(«Майму суддзю»)**

Кáтам спіцца спакойна, крывавыя *хлопчыкі* ім не сняцца. Яны па-свойму запаўняюць духоўны вакуум. «Заўсёды на лёгкім падпітку», начальнік лагера Вахонін, які з твару «нагадваў партрэты Паўла 1 — кірпаты, з пукатымі вачыма і адвіслымі шчокамі», любіў дзеля забавы цкаваць на вахце знясіленых зэкаў аўчаркаю, весела хвастаць іх бізуном». Пра пакаянне тут размовы не можа быць. Не да *пакаяння*, калі трэба быць пільным: заведзены канвеер пажыраў і тых, хто яго раскруціў. Знішчаліся разбэшчаныя даносчыкі, узнагароджаныя «за адданую працу па барацьбе з ворагамі народа» следчыя траплялі ў тыя ж падвалы, у якіх па іхнім загадзе катавалі нявінных ахвяр.

Змест аповесці «Такія сінія снягі» пераконвае ў тым, што заведзеная фабрыка смерці не спыняецца нават тады, калі галоўныя тэхнолагі сыходзяць у нябыт. Рэабілітаваныя лагернікі, з якіх у 1947 г. была знята судзімасць, у хуткім часе адчулі, што кола звужаецца. 1948 г. С. Грахоўскі быў зноў арыштаваны. У часе вобыску маёр Ушакоў і капітан Шаўцоў цікавіліся: «Где вы прячете белорусские книги?». Судзіць не было за што, але «особое совещание» вынесла прысуд: «І я другім паваротам пайшоў асвойваць нары, падлогі пад імі, дэзакамеры, карцэры мінскіх, маскоўскай, куйбышаўскай, чэлябінскай і новасібірскай турмаў». Затым пайшлі гады ссылкі — гады афіцыйнай пагарды да сумленнага чалавека, яго сям'і». Аповесць «Такія сінія снягі» раскрывае трагедыю асобы, без віны асуджанай на знікненне ў знямелай прасторы чужыны.

Доўгі час сіні колер у беларускай паэзіі быў сімвалам бацькаўшчыны, яе красы, знакам этнічнага адзінства. Сёння ж замест вобразаў сіняга васілька, сініх касачоў, замест «сіняй-сіняй» Беларусі ўсё часцей сустракаюцца вобразы мёртвай марознай сіні:

**і тольні бягуць па небе аблокі,**
**і толькі імчыць кудысьці месяца сіні**
**човен, а ў ім сядзяць сінія людзі.**
**(Алесь Разанаў, «Сінія людзі»)**

Аповесць «Такія сінія снягі» мае падзагаловак «Успаміны майго двайніка — знак таго, што пісьменнік імкнецца да абагульнення пэўных псіхалагічных працэсаў, да спасціжэння ўрокаў дваццацігадовага знаходжання ў няволі. «Да арышту, — гаворыцца ў аповесці «Зона маўчання», — я верыў кожнаму лозунгу, кожнаму друкаванаму і афіцыйнаму слову, быў узорам бяздумнага «патрыятызму», згаджаўся, што ў нас усё перадавое, разумнае і неабходнае». Заснаваную на рэпрэсіях сістэму ўслаўляў літаратурны акафіст на працягу дзесяцігоддзяў. Таталітарны рэжым адабраў у асобы права на які-небудзь выбар, на крытычнае мысленне. Мемуары С. Грахоўскага адлюстроўваюць працэс аздараўлення псіхікі народа, вяртання асобы да сваёй сутнасці, да крытычнай самаацэнкі:

**Мы як умелі, так хлусілі**
**Пра новы ўзлёт увышыню**
***І па рэдакцыях насілі***
**Сваю дзяжурную хлусню.**

**Нягоднікам складалі гімны,**
**Зладзеяў славілі ў свой час,**
**А шлях ужо крывава-дымны**
**Быў накановіаны для нас.**

Навейшыя творы С. Грахоўскага, у якіх аўтар уздымаецца да шырокіх абагульненняў, адлюстроўваюць *працэс* пераадолення дэфармацыі нацыянальнага характару. У прысвечаным З. Пазняку вершы «Дэмакратыя» гучыць *голас* чалавека, які не хоча і не можа жыць «з кляпам у роце»:

**Іх нямала яшчэ на пасадах,**
**Бо наўкол сваякі і радня,**
**Задаволеных, сытых і радых,**
**Што вяртушкамі верцяць штодня.**
**За галоснасць, за праўду з сумленнем**
**Даражэй анічога няма.**
**Не паставім хлусню на калені —**
**Дэмакратыя ўкленчыць сама.**

Змешчаныя ў кнізе «Споведзь» вершы замацоўваюць канчатковы вынік перажывання і асэнсавання змарнаваных сталіншчынаю гадоў і спадзяванняў. Скарга і споведзь «ветэрана пакутаў без віны» сталі тым, чым яны і павінны быць: сведчаннем ахвяр на судзе гісторыі.

**Аляксей РАГУЛЯ.**

цы, што — калі ўлічыць тагачасныя ўмовы, тагачасны (ды і сённяшні) недахоп кваліфікаваных кадраў — іх магло б быць куды больш...

Перачытваючы артыкул А. Залескага, выразна бачыш яго зададзенасць. Вось аўтар папракае калектыў выдання ў тым, што біяграфіі многіх дзяржаўных дзеячаў, вучоных, пісьменнікаў атрымаліся тэкстуальна блізкімі да біяграфій, змешчаных у іншых энцыклапедычных даведніках. Але ж скажыце, калі ласка, што трэба было рабіць таму ж аўтарскаму калектыву: прыдумваць заслужанаму чалавеку іншую біяграфію? Пісаць, што ён вучыўся ў іншым месцы, працаваў на іншай пасадзе?! Супадзенні тут непазбежны і агаварыць іх было немагчыма, паколькі ў адным энцыклапедычным даведніку не прынята спасылацца на іншы энцыклапедычны даведнік... Або А. Залескаму не падабаецца, што ў «Зборы» даюцца вызначэнні тыпу: «помнік *неаготыкі*», «*помнік неакласіцызму*» і г. д.—маўляў, незразумела, чаму той або іншы будынак адносіцца да пэўнага *стылю*. Але ж, хочацца запярэчыць, не маглі аўтары артыкулаў у кожным выпадку зноў і зноў паўтараць, што сабой уяўляе той ці іншы архітэктурны стыль. Зрэшты, гэта і так павінна быць вядома кожнаму адукаванаму чалавеку... Або яшчэ прыклад тэндэнцыйнасці: занадта «прыгожыя карцінкі-ілюстрацыі». Гледзячы на іх, чытаючы артыкулы «Збору», «можа скласціся ўражанне, што ў данай справе ўсё тут добра». На першы погляд, аўтар мае рацыю: сапраўды многія помнікі сёння разбураны, маюць непрыглядны выгляд, сапраўды іх здымкі старанна падабраны, адрэтушаваны. Але ж, як гісторык, А. Залескі не можа не ведаць, што ўсё гэта рабілася па камандзе зверху, каб скрыць сапраўднае, жахлівае становішча. Дык навошта ж ставіць у віну калектыву тое, што з'яўлялася яго (ды і ўсеагульнай) бядой?!

Або яшчэ апошняе (пералік нацяжак можна было б доўжыць). А. Залескі пратэстуе супраць таго, што «ў лік спаборнікаў на прэмію» неабгрунтавана ўключана прозвішча загадчыцы рэдакцыі энцыклапедычнага выдавецтва С. Самуэль. Маўляў, у «Зборы» няма ніводнага *артыкула, падпісанага* яе прозвішчам, а ў той жа час «у спіс на прэмію не ўключаны некаторыя аўтары шматлікіх артыкулаў»... Не ведаю, хто тут маецца на ўвазе. Можа, сам А. Залескі, можа, такія аўтары «шматлікіх артыкулаў», як я. Але са свайго боку магу з усёй станоўчасцю засведчыць, што мой уклад у падрыхтоўку і выданне «Збору помнікаў» у стакрат меншы, чым уклад С. Самуэль. Бо яна (і гэта не можа быць невядома А. Залескаму) як загадчыца кантрольнай рэдакцыі разам з калектывам выпрацоўвала прынцыпы выдання, уніфікацыі яго артыкулаў. Яна ў свой час ратавала яго.

Ёсць, вядома, мясціны, дзе я пагаджаюся з А. Залескім. Да прыкладу, калектыву выдання трэба было праявіць паслядоўнасць: або даваць усе памятныя мясціны (месцы нараджэнняў), не адзначаныя мемарыяльнымі знакамі, або не даваць ніводнай, пакінуўшы іх для спецыяльнага даведачнага выдання «Памятныя мясціны Беларусі» (патрэба ў такім выданні даўно відочная).

Аднак у цэлым пасля артыкула «Заганы шматтомнага выдання» я застаўся ў горкім одуме. Ну чаму гэта нам, беларусам, *наканавана такая нацыянальная* закамплексаванасць?! Здарылася незвычайнае. Бо рэдка, вельмі рэдка нам удаецца ўперад *выйсці, паказаць у нечым*, няхай не бездакорны, прыклад іншым (быў яшчэ выпадак: шматтомны збор «Беларуская народная творчасць»). Здавалася б, толькі радавацца! Дык жа не, з такой жа радасцю, не грэбуючы нацяжкамі, даказваем: «Не атрымалася»! Нібыта і быў «крок», і не было яго...

**Адам МАЛЬДЗІС.**

# ГОДНАМУ АБІТУРЫЕНТУ— ГОДНЫ ШЛЯХ

**Заўвагі на палях даведніка для паступаючых у ВНУ БССР у 1990 годзе па беларускай і рускай літаратуры**

*Сёння мы шмат гаворым,* але на жаль, мала што робім па радыкальнай гуманізацыі навучання, па вызваленні яго ад тэхнакратызму і заарганізаванасці. Ва ўсіх праблемах навучання на першы план вылучаецца выхаванне духоўнасці праз навучанне: годнасці, сумлення, гонару, павагі да чалавека. Гэтыя галоўныя каштоўнасныя арыентацыі асоба атрымлівае ў першую чаргу праз літаратуру.

Справа не толькі ў тым, што выкладанне літаратуры ў школе і ў ВНУ патрабуе паляпшэння і што трэба *павялічыць* колькасць гадзін на яе выкладанне, рыхтаваць новыя падручнікі і праграмы. Неабходна змяніць *сам погляд на ролю і месца* літаратуры ў сістэме выкладання.

З выхавання душы пачынаецца ў чалавеку жаданне рабіць дабро, добрыя справы і ўчынкі. Чалавекафарміруючая роля літаратуры ў гэтым працэсе вельмі вялікая. Праз літаратуру чалавек вучыцца ўсведамляць гісторыю, атрымліваючы той маральны вопыт, у якім мае патрэбу грамадскасць.

Якія ж патрабаванні па літаратуры прад'яўляе «Даведнік для паступаючых у ВНУ БССР у 1990 годзе»? (Мінск, «Вышэйшая школа», зацверджаны Міністэрствам народнай адукацыі рэспублікі).

Звернемся да праграмы па беларускай літаратуры. У агульных указаннях зняты пункт «в» праграмы 1989 года: «Веданне асноўных палажэнняў артыкулаў У. І. Леніна «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура», «Аб пралетарскай культуры», Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза ў новай рэдакцыі, матэрыялаў XXVII з'езда КПСС і XXX з'езда КПБ аб развіцці літаратуры і мастацтва». Усё астатняе засталося без змяненняў. Здзіўляе метадычны падыход складальнікаў праграмы пры вызначэнні месца шэрагу беларускіх пісьменнікаў у развіцці беларускай літаратуры. Адны з іх папалі ў раздзел «Беларуская савецкая літаратура», іншыя — у раздзел «Сучасная літаратура». Некаторыя аўтары ёсць у абодвух раздзелах. Так, напрыклад, І. Шамякін прадстаўлены ў абодвух раздзелах, а Я. Брыль — толькі ў раздзеле «Беларуская савецкая літаратура» і толькі двума творамі: «Галя» і «Memento mori», хоць гэты пісьменнік і сёння плённа працуе на ніве літаратуры. Ды і яго раман «Птушкі і гнёзды» павінен быў увайсці ў спіс літаратуры для абавязковага вывучэння.

Невядома па якіх прычынах у раздзел «Сучасная літаратура» не ўвайшла творчасць Пімена Панчанкі і Максіма Танка.

На мой погляд, нічым не апраўдана рэкамендацыя адных паэтаў (П. Глебка, П. Панчанка і інш.) канкрэтнымі творамі, а іншых (А. Пысін, Н. Гілевіч, А. Русецкі, П. Макаль) — двухтомнікамі без назваў твораў.

Думаю, што сярод рэкамендаваных твораў В. Быкава трэба было б назваць і «Альпійскую баладу», і «Знак бяды», *«У тумане», а не толькі «Абеліск» і «Сотнікаў».*

Сучасная беларуская драматургія прадстаўлена ў даведніку імёнамі А. Макаёнка і К. Губарэвіча. Але чамусьці макаёнкаўская «Лявоніха на арбіце» не ўвайшла ў праграму.

Можна па-рознаму ставіцца да творчасці сярэдняга пакалення беларускіх драматургаў, але выключыць з праграмы імя Аляксея Дударава, драматурга, творчасць якога добра вядома не толькі ў рэспубліцы і краіне, але і за мяжой, нічым не апраўдана.

У раздзеле «Сучасная паэзія» трэба было б назваць імёны *А. Грачанікава,* В. Зуёнка, У. Някляева і шэрагу іншых беларускіх паэтаў.

Можна і нават трэба гаварыць і аб прынцыпе адбору твораў У. Караткевіча, А. Вялюгіна, В.Казько, Г. Бураўкіна і іншых аўтараў, але гэта толькі пацвярджае думку аб метадалагічнай непрадуманасці даведніка.

Чатырма творамі чатырох аўтараў у раздзеле «Сучасная літаратура» вылучана «Ленінская тэма». Але сёння, відаць, больш правільна гаварыць не спецыяльна аб ленінскай тэматыцы, звязанай толькі з імем У. І. Леніна і яго жыццём (даведнік за аснову бярэ менавіта такое выдзяленне), а аб творах на гісторыка-рэвалюцыйную тэму.

З праграмай па рускай літаратуры, зацверджанай Дзяржкамітэтам СССР па народнай адукацыі, адбылося наступнае: яна была проста перазацверджана Міністэрствам народнай адукацыі БССР і захавала ўсе яе недахопы. Напрыклад, у праграме было сказана, што «адзначаныя зорачкай творы выносяцца на ўступныя экзамены толькі для паступаючых на тыя спецыяльнасці, для якіх прадугледжаны як пісьмовы, так і вусны экзамен».

Такім чынам, усім, хто здаваў вусны экзамен у гэтым годзе, *не трэба нічога ведаць пра* А. Блока, бо ўсе яго творы адзначаны зорачкай, а з твораў С. Ясеніна толькі адзін верш «Неуютная жидкая лунность...» не меў гэтай паметкі.

Прымаючы ўдзел у прыёмных экзаменах гэтага года, я задаў абітурыенту пытанне: «Што вы можаце сказаць аб творчасці М. Булгакава ці Г. Ахматавай?» Атрымаў адказ: «Гэтых аўтараў у даведніку для паступаючых няма...» Каментарыі залішнія.

Калі гаварыць сёння аб «*свабодзе асобы*», *мы павінны* памятаць, што гэта не толькі «ўсвядомленая неабходнасць», але і «ўсвядомленая магчымасць», *якая асноўваецца на* самаабмежаванні і самакантролі. «Болевы» вопыт класічнай і сучаснай літаратуры дапамагае станаўленню гэтых якасцяў характару. І не трэба палягчаць ГОДНАМУ абітурыенту ГОДНЫ шлях у ВНУ. Для гэтай мэты неабходны і ГОДНЫ, а не палегчаны даведнік.

**Сяргей ЛАКІШЫК,**
**загадчык кафедры філалагічных дысцыплін БДТМІ.**

Янка Сіпакоў

# ХАТА

*паэма ў прозе*



У кожнага чалавека, які мусіць жыць на зямлі, павінна быць свая хата.

У яго ж ніколі не было сваёй хаты.

У кожнага чалавека павінна быць свая жанчына, якая б кахала яго, і свая сям'я, якая б радавала яго.

У яго ж не было ні сваёй жанчыны, ні сваёй сям'і.

У кожнага чалавека, які хоча назаўсёды астацца сярод жывых, павінны быць свае дзеці.

У яго ж не было сваіх дзяцей.

Кожнаму чалавеку, здаецца, наканавана мець харошых і шчырых сяброў.

Сябры ў яго, праўда, былі. Але яшчэ болей было ворагаў.

Усё жыццё ён шукаў сяброў, а знаходзіў часцей за ўсё ворагаў.

Кожны чалавек нараджаецца вольны і шчаслівы.

Ён жа нарадзіўся ў гэты свет рабом.

Рабом быў яшчэ і не народжаны, бо маці яго Кацярына Якімаўна, бацька Рыгор Іванавіч адвеку ведалі сябе прыгоннымі сялянамі.

Яны яшчэ толькі цалаваліся, яны яшчэ толькі мілаваліся, а ён ужо—навырост!—быў рабом!

Так і памёр ён нявольнікам.

Бо хіба можна адчуваць сябе вольным, калі твае браты і сёстры — прыгонныя, і ты не можаш іх выкупіць.

Яны — рабы, і ты, крэўны іх, хоць і адпушчаны,— таксама раб...

Цяжкое, свінцовае неба над укрытаю лёгкім і светлым снегам зямлёю.

Нават праз тоўстыя мікрапорыстыя падэшвы адчуваеш, якая яна, карміцелька, цёплая пад снегам, якая шчодрая і ласкавая напярэдадні свайго свята — вясны.

Канеў.

Чарнечая гара.

Самая высокая і самая святая гара Украіны.

Свой Казбек, свой Арарат, свая Джамалунгма.

Свае Альпы, свае Кардыльеры, свае Гімалаі.

Джамалунгма Украіны, што завецца так проста і так звыкла—Тарасова гара.

Халодныя, заінелыя прыступкі, адарваныя ад зямлі, вядуць на вяршыню...

Ідзеш над зямлёю — як па небе...

Гэта ж трэба: столькі на яго любай Украіне было хат,— беленькіх, чысценькіх, светленькіх, дагледжаных, мазанак, святліц ля стаўкоў і рэчак, між мора збажыны і край стэпу, пад таполямі і з садкамі вішнёвымі пад вокнамі,— столькі гасцінных і зычлівых хат!

А ў яго не было сваёй хаты.

Сёння любая хата была б рада стаць ягонаю.

Была б шчаслівая, каб ён толькі адчыніў дзверы, каб толькі ўважыў яе.

А ў яго не было сваёй хаты.

Неба над галавою было, а хаты не было.

Страха над галавою была, а хаты не было.

Была, праўда, бацькава хата — падслепаватая, цесненькая халупка, што гаротліва насунула на самыя вокны страху-кучомку і, нібыта прыжмурыўшыся,— адно акно меншае, другое большае,— думала сваю нялёгкую долю — яна таксама была прыгоннаю.

І слухала, як стогнуць грэчкасеі і хлебажнеі, з якіх розгамі ды бізунамі здзіраюць скуру.

Тая хата, з якой ён, самотны хлопчык, збягаў далёка ў стэп — шукаць вялізныя жалезныя слупы, што падпіраюць неба — і адкуль яго ўжо ноччу прыводзілі дадому чумакі — стомленага, уражанага і разгубленага: дык а слупоў жа, ці ведаеце, нідзе няма!

Была яшчэ страха над галавой, калі пасля смерці бацькоў хлапчаня — адзінаццаць гадкоў і ўжо круглы сірата — наймаецца да дзяка-п'яніцы Паўла Рубана, крывога Саўгіра, шкаляром-папіхачом. Дзяк змушаў яго насіць ваду, змушаў чытаць псалтыр над нябожчыкамі, вучыў нават красці.

Але ж ён вучыў хлопчыка і яшчэ сяму-таму — даваў яму чытаць перапісаныя ад рукі крамольныя вершы Скаварады!

І ўсё ж аднойчы, калі дзяк напіўся з панамаром Іонаю Лымарам і спаў п'яны, Тараска звязаў яго — самага першага, як яму тады здавалася, дэспата роду чалавечага, адсцябаў розгамі і ўцёк.

Хіба ж гэта была хата, калі з яе ўцякаць захацелася?

Былі ў яго яшчэ і харомы.

Халодныя, гулкія апартаменты памешчыка Паўла Энгельгардта, у якога прыгонны Тараска служыў казачком.

У халодным Пецярбурзе, куды маленькі раб разам з чэляддзю прыйшоў пехатою аж з Вільні зімою, па лютаўскіх снягах і маразах — услед за кібіткаю і вазамі пана.

Але хіба могуць харомы стаць сваімі, калі ў іх табе нічога не належыць, а твой крык і плач, калі пан б'е толькі за тое, што ты ўмееш і хочаш маляваць, рэхам адбіваецца ад нямілых сцен?

Праўда, б'юць часцей за ўсё розгамі і не ў харомах, а на стайні, але ўсё ж...

Э не, харомы — канечне ж, не хата: у іх холадна і няўтульна.

Як і ў тых сценах Сената і Сінода, якія ён потым распісваў.

Была ў яго і казённая хата, пра якую ён усё жыццё не мог успамінаць без жаху і грэблівасці, — задушлівая казарма ў стылых стэпах Заўралля, куды яго, «як надзеленага моцным складам цела», схаваў ад любай Украіны сам цар Мікалай Першы, з пісьменніка і мастака зрабіўшы радавога салдата Арэнбургскага асобнага корпуса і сваёю рукою напісаўшы: «Трымаць пад найсуровейшым наглядам, забараніць пісаць і маляваць».

Гэтую сваю «хату», дзе амаль нічога не відаць ад дыму, дзе чад, здаецца, і зараз, калі мы глядзім, выядае да слёз вочы, ён, расхінуўшы, як занавеску, сцяну, паказаў нам на сваёй сепіі — карычнявата-пыльным малюнку, фарбу для якога яму, здаецца, аддавала са свайго чарнільнага мяшка каракаціца.

Вунь у паўзмроку сядзяць і ляжаць, як нявольнікі, салдаты, вісяць шынелі і штаны, стаяць чаравікі і боты, а збоку журбоціцца і ён — самотны і задумлівы салдат Шаўчэнка.

Здаецца, адсюль, як сцяг ярэмніка, перанесена ў музей і вось гэтая салдацкая сарочка — яго сарочка, якая прапахла потам і шматлікімі фортамі, дзе яму давялося гібець.

Але ў яго ж была і ласкавая хата, дзе яму аддалі ў расхваляваныя рукі радасць — яго вольную:

«1838 г. Красавіка 22 дня, я, ніжэйпадпісаны звольнены ад службы гвардыі палкоўнік Павел Васільеў сын Энгельгардт, адпусціў вечна на волю прыгоннага мне чалавека Тараса Рыгорава сына Шаўчэнку, які дастаўся мне па спадчыне пасля нябожчыка бацькі майго Сапраўднага тайнага саветніка Васілія Васільевіча Энгельгардта, запісанага па рэвізіі Кіеўскай губерні, Звенігародскага павета ў сяле Кірылаўка, да якога чалавека мне, Энгельгардту, і нашчадкам маім наперад спраў няма і ні ў што не ўступацца, а вольны ён, Шаўчэнка, выбраць сабе род жыцця, які пажадае».

Хата, якая яму гэта сказала, і праўда была ласкавая, але яна таксама была не свая: то была хата Карла Брулова.

Аднак была ў яго і свая хата.

У сэрцы. У душы. Ва ўяўленні.

Намаляваная. Белая-белая. З разнасцежанымі вокнамі — і таму як крылатая.

Вокны, праўда, былі зачыненыя, але яна як бы ўзмахнула невідомым крыллем — каб іх адчыніць.

Мара!

Ага, усё жыццё ён марыў пра яе — пра сваю хату!

«Пастаўлю хату, свой пакойчык,
Садок-раёчак насаджу».

Яму балела свая хата, і ён крычаў пра яе.

Але жыццё — складанае: мёртвы часам хапае жывога, а жывы не можа абараніцца ад мёртвага.

Цар Мікалай Першы сачыў за ім і з магілы.

Мудрэц плакаў, а сяму-таму здавалася: смяецца.

Мудрэц стагнаў, а сяму-таму здавалася: прыкідваецца.

«Я толькі хатачку ў тым раі
Жадаў і ўсё яшчэ жадаю,
Каб хоць памерці на Дняпры,
Хоць на маленечкай гары».

І ўлетку 1859 года, у свой апошні прыезд на Украіну — наступнага лета ў яго ўжо не будзе,— ён шукае месца пад сваю вымраеную хату, пад сваю выпакутаваную сядзібу.

І знаходзіць гэтае месца — паміж Каневам і сялом Пекары — як ён сам кажа, «над самісенькім Дніпром».

І ўжо нават план гэтай хаты малюе і пасылае яго свайму брату Варфаламею — брату не па крыві, а па сэрцу.

Але хата, перш чым папасці ў рукі брата, папала ў Пецярбург — у Трэцяе аддзяленне.

Перш чым нарадзіцца, яна ўжо стала крамольнаю—трапіла ў палітычна ненадзейныя.

Хата, яшчэ не стаўшы хатаю, ужо стала вязнем.

Яе, яшчэ не народжаную, ужо арыштавалі.

Во як бывае — і сам яшчэ не нарадзіўся, а ўжо раб.

І хата, яшчэ не пастаўленая, а ўжо арыштаваная.

Шаўчэнка не ведаў, што паперад яго на Украіну спяшаўся цыркуляр — сачыць за ім і дакладваць кожны крок.

Вось так — ён ехаў, а перад ім бег цыркуляр Трэцяга аддзялення.

А цыркуляры ж бегаюць, вядома, хутчэй, чым коні: гэты дабег да Украіны раней паэта.

Цяжкі, пакутны клопат чакае таго, хто, гнаны, затраўлены, стаўраваны, уздумае паставіць сваю хату на сваёй роднай зямлі.

«У садзе, кветкамі абвітая,

На ўзгорачку сабе стаіць,

Нібыта дзеўчына, хаціна...»

Значыць, ён марыў пра хаціну, як марыць пра каханую!

Значыць, яму балела яшчэ і каханне.

І балелі вясельныя песні.

«Ой дзяўчына-горліца да казака горнецца...»

«Заграбай,мама, жар, жар...»

«Ісайя, радуйся!»— з надзеяй і хваляваннем прамаўляў ён словы царкоўнай песні, якою пад час вяселля віншавалі маладых.

І цярпліва, настойліва чакаў свае Прачыстае — на Прачыстую, калі замаўкалі, прыбраныя, палі і лугі, на яго любай Украіне пачыналіся вяселлі...

А яго Прачыстая так і не настала — абмінула, абышла яго бокам.

Столькі дзяўчат і жанчын на Украіне — прыгожых і годных, ласкавых і добрых, шчырых і замілаваных, сардэчных і ўзычлівых, спагадлівых і цнатлівых.

А яму не знайшлося жонкі.

Нялёгка, мусіць, было любіць гэтага лабатага, нравістага, упартага («спатыкаюся, але не каюся») чалавека, які, кажуць, і купаўся — мужык!— толькі ў адзенні.

Але ж колькі жанчын любяць нахабнікаў і прайдзісветаў, п'яніц і зладзеяў, і лічаць сябе такімі шчаслівымі!

Я не наракаю на жанчын, яны не вінаватыя — проста размінуліся з ім у жыцці.

А колькі самотных жанчын і зараз цярпліва чакаюць свайго суджанага...

Столькі шаноўных жанчын было на яго любай Украіне, а ён быў такі адзінокі.

Столькі жанчын пасля вышывалі яго партрэты—па два гады жыцця аддавалі на гэта,—а тады яму не знайшлося каханай.

«А мусіць, трэба ажаніцца ну хоць бы з чортавай сястрой»,— роспачна ўсміхаецца ён.

Але не, такое ён гаворыць толькі на словах.

Варфаламей, названы брат, які служыў упраўляючым у памешчыка, хацеў, каб ён ажаніўся з гувернанткаю Наталкай Шулякіўнаю.

Але круталобы раззлаваўся: «Я не хачу сабачай крыві!»

І сам хацеў ажаніцца з наймічкаю Харытаю Даўгаполенка, якая слугавала князю Лопухаву, а пасля і самому Варфаламею.

Але тая адмовіла яму — відаць, збаялася складаць разам яго і сваю няволю, яго і сваё гора, яго і свае жабрацкія торбы.

А, можа, спалохалася сваіх гадоў: ёй жа ўсяго толькі было васемнаццаць...

«Ой, ён такі стары і лысы. І вусы ў яго сівыя. За яго замуж?»

І праўда, ягонае шчасце — ажаніцца з маладой — мусіць, ужо мінула...

Шкадую, што не знайшлося дзяўчыны ці жанчыны, якая б палюбіла яго гады і пакуты, яго лысіну і сівыя вусы.

Сумую, што ва ўсёй Украіне не знайшлося жанчыны, якая б падзяліла з ім яго сум і адзіноту, яго нядолю і няволю.

А потым і думаю: а можа, гэта і добра?

Геніяльны чалавек, мусіць, не можа быць шчаслівы.

Яму, здаецца, наканавана быць няшчасным і адзінокім.

Геніяльнасць патрабуе адзіноту, бо адзінота—чорны хлеб геніяў.

І ўсё ж жанчына была заўсёды з ім.

Як і хата — у думках, ва ўяўленні, у сэрцы, у душы.

Як і бог—наканаваная і непазбежная.

Спачатку гэта была маці Кацярына Якімаўна.

Як яна са старэйшаю сястрою, таксама Кацярынаю, умела размалёўваць белую-белую печ!

Была і малодшая сястра Ярына.

Якую яна сарочку палатняную вышыла Тарасу!

Потым была яна, Кацярына. Якую ён сам нарадзіў. І якую гэтак кахаў.

О як ён шкадаваў яе, пакрыўджаную лёсам і прыхаднем. Няшчасную. Гнаную бядою. Зняважаную, адрынутую людзьмі.

Людзі гналі, адпіхвалі яе ад сябе, а ён гарнуў да сэрца.

Хіба можна так любіць сваё дзіця?

Можна, бо ты, стварыўшы яго, найперш за яго і адказваеш.

Як любіў ён яе—намаляваную і жывую: яе твар, яе закрытыя вочы, пад павекамі якіх угадваюцца цёмна-вішнёвыя, як ягадкі, зрэнкі; яе пульхныя вусны, якія, здаецца, яшчэ не астылі, не амяглі ад пацалункаў; яе шыю, яе вінавата-цнатлівыя грудзі, якія двума сарамлівымі грудочкамі ўпрыгожваюць белую кофтачку; яе чырвоны, здаецца, ядвабны пярэднічак, які, хаваючы, адкрывае крыху пакруглелы жываток,

# «ТРЭБА РАБІЦЬ СВАЁ»



**З прарэктарам па навучальнай рабоце Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Андрэем КАЛЯДОЙ гутарыць наш карэспандэнт Жанна ЛАШКЕВІЧ**

**— Андрэй Андрэевіч, надарылася так, што сёлета супалі тры юбілеі ў вашым жыцці: чалавечы (пяцідзесяцігоддзе), педагагічны і творчы. І сёлета ж вы перайшлі на адміністрацыйную работу ў БДТМІ. Ведаю не адзін год вашу работу па стварэнні ў педагагічным інстытуце тэатра чытальнікаў «Жывое слова», тэарэтычнай распрацоўцы праблем выразнага чытання, прапагандзе чытальніцкага мастацтва і беларускай літаратуры. Сваёю дзейнасцю вы ўжо не аднаму пакаленню педагогаў (і не толькі педагогаў) давялі, што выразнае, дакладнае, пераканаўчае слова — гэта візітная картка, так бы мовіць, іх прафесійнай годнасці, прафесійнае здатнасці. І гэтае ўмельства патрэбна не адно чалавеку мастацкаму, але і проста чалавеку культурнаму — як першаўмова плённых прафесійных зносін.**

— Так, гэта не адно і тое ж — слова напісанае і слова вымаўленае. Слова гучыць — але як? Шмат людзей бяруць кніжку і чытаюць яе, і кожны вычытвае тое, што разумее, бачыць; бярэ адтуль толькі тое, што дазваляе ўзняць узровень ягонай выхаванасці, інтэлектуальнага развіцця.

**— «Мы творым толькі тое, што мы можам, што носім у сабе, што самі ўмеем, што пазнаём розумам ці сэрцам...»**

— У маім выпадку з тэатрам чытальнікаў «Жывое слова» бралася пад увагу, што будучыя яго ўдзельнікі — настаўнікі. Яны будуць штораніцы прыходзіць у клас «выкладаць» літаратуру; гаварыць пра мастацкія творы, але як яны будуць гэта рабіць? Што прапануюць сваім выхаванцам? У нас доўгі час дзяўблі: навучанне, навучанне. Потым пачалі казаць: навучанне і выхаванне. І толькі зараз вяртаемся да асновы асноў, на чым педагагічная справа трымалася тысячагоддзі: выхаванне, а потым — навучанне. А выхоўваюць не толькі ўчынкі. Выхоўвае і слова. Як жа слова напісанае, вымаўленае папоўніць такім зместам, каб вучню было не проста цікава на ўроку, але каб захацелася яму прыйсці і на другі, трэці ўрок, каб захацелася яму вучыцца? На сённяшні дзень гэта праблема праблем.

На пачатку сваёй педагагічнай кар'еры я ўжо быў дыпламаваным акцёрам і пэўна ведаў: у Станіслаўскага слова — дзейснае. Значыць, можна і трэба ўздзейнічаць на чалавека праз слова дзейснае...

**— Андрэй Андрэевіч, даруйце, але чаму вы, адзін з трох выпускнікоў (іх усяго было чатырнаццаць), каго запрасіў на работу Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, пайшлі ў педагогіку!**

— Як ні дзіўна, зразумеўшы сутнасць слова вымаўленага. За шэсць гадоў маёй працы ў тэатры былі і галоўныя ролі, і прэса няблага іх ацэньвала, але... Выкладчыкі сцэнічнай мовы яшчэ ў БДТМІ — Вішкароў і Стасевіч — падказвалі мне мой будучы шлях. Вішкароў на чацвёртым курсе задумаў спецкурс «Тэатральная педагогіка» з падзагалоўкам «Выкладанне сцэнічнай мовы». І мы, шэсць чалавек з чатырнаццаці, пачалі да яго хадзіць. Не было ніякай праграмы. Мы займаліся... пошукам адказу на пытанне «як навучыць» — размаўляць, весці гутарку, падаваць рэпліку, падтрымліваць размову...

**— І такім чынам адкрывалі ў сабе педагагічныя здольнасці!**

— Пэўна. А калі зважыць на тое, што Акадэмічны тэатр, запрасіўшы трох шчаслівуцаў, вызначыў ім па шэсцьдзесят пяць рублёў на месяц... А калі сям'я... Падзаробкі ў артыстаў былі і ёсць. І я пайшоў падзарабляць... у педагагічны інстытут — весці курс выразнага чытання, а потым — спазнаваць і выпрацоўваць методыку навучання гэтаму чытанню. Ні пра якую творчую незадаволенасць, натуральна, гаворкі не ішло. Я сумяшчаў працу ў тэатры і выкладанне, пакуль не натрапіў на чалавека, які пераканаў: педагогіка, калі ёю займацца сур'ёзна і аддана, гэта не менш адказна за сцэну.

**— Удалае спалучэнне — акцёрства і педагогіка.**

— Не баючыся здацца банальным, скажу, што ўдзячны лёсу — і за акцёрства, і за педагогіку. Прафесійная (у пэўным сэнсе) акцёрская падрыхтоўка для педагога, на маю думку, — абавязковая. На сённяшні дзень шмат хто з настаўнікаў зачытваецца Карнэгі, але ўсё, пра што піша амерыканец, ужо адкрыта Станіслаўскім у сваёй сістэме. Напрыклад: як прыйсці ў клас і ўзяць увагу вучняў? Як пачаць размову? Што такое малое кола ўвагі, што такое — сярэдняе, вялікае? Як ад вялікага кола ўвагі перайсці да малога? Прыгожае параўнанне настаўніка з артыстам гаворыць пра спосаб існавання чалавека ў прафесіі. Выкладчык, бывае, выкладваецца перад класам, а ён — абыякавы. А хіба ўрок — не маленькі спектакль паводле ўсіх правілаў узаемадзеяння акцёраў на сцэне? Такім чынам, тэатральная педагогіка была пакладзена ў аснову ўсяго таго, што я рабіў з будучымі служкамі школы. Увёў спецыяльны трэнінг — у зале зрабілі цэлую люстэркавую сцяну, каб студэнты бачылі свае паставы, жэсты, выраз твару, «грымасы»... Каб вучыліся валодаць сабою і сачыць за сваімі паводзінамі. Калісьці, у трыццатыя гады, Макаранка марыў, што ў педінстытутах будуць займацца пастаноўкай голасу, адпрацоўкай дыкцыі, выпрацоўкай прыгожай паставы...

**— Макаранка! А хіба да яго педагогаў не рыхтавалі з элементамі акцёрскага навучання!**

— Яшчэ ў канцы XIX стагоддзя выйшла першая кніжачка па праблеме выразнага чытання. Аўтар — В. Астрагорскі. Асновай кніжкі быў пераклад працы француза Легувэ. У Д. Каравякова ўжо з'явілася кніжка пад назваю «Майстэрства выразнага чытання», зўважце, ужо майстэрства. Спецыялісты яшчэ тады пачыналі гаварыць пра многае, але і цяпер этыка і этыкет нават не ўключаны ў шмат чые навучальныя планы... Дзесяць га-

# ХАТА

(Пачатак на стар. 8—9).

«А на сечы мудры немец картопельку садзіць».

І ўсё ж праз два гады ён вяртаецца на радзіму. Селіцца ў Кіеве. Але ненадоўга.

Уступае ў члены таемнай палітычнай антыпрыгонніцкай арганізацыі — Кірыла-Мяфодзьеўскага таварыства.

Пачынае задумвацца сам і змушае думаць іншых:

«Вось зірніце: адно зерне — цар, жменя — памешчыкі, прыгаршчы — мы. Цяпер змяшайце ўсё гэта. Знайдзіце, дзе хто? Хто знойдзе ў прыгаршчах цара?

Хто ж даруе такое? Які цар якому рабу?!

І венцаносны вырашае, што лепей за ўсё бунтаўшчыку падыдзе салдацкая форма, хоць і ведае, што яна кепска ляжыць на паэтах і мастаках — яны не ўмеюць хадзіць строем.

Найяснейшаму ясна — паэт не павінен пісаць.

Найсвятлейшаму зразумела — мастак не павінен маляваць...

І трэці раз ён прыязджаў на бацькаўшчыну летам — пасля абразы казармаю, пасля Кос-Арала і іншых фортаў.

Прыязджаў выбіраць сабе мясціну пад хату.

У яго ў кішэнях зерне, гатовае да сяўбы — у паэта, як у рупнага хлебароба, зерне заўсёды было з сабою, — а ў душы — неспатольная мара пра сваю зямлю.

Але зямлі яму не прадаюць: «Трэба спытаць у генерал-губернатара»...

О гэтыя злавесныя словы! Яны, здаецца, гналіся за ім з нараджэння да смерці і нахабна паўставалі перад кожнай ягонаю мараю.

І нібы прадчуваючы, што ў яго ніколі не будзе сваёй нівы, малы Тараска вельмі любіў у дзяцінстве есці зямлю — толькі адвернешся, успаміналі родныя, а яму ўжо жываток забалеў: зноў зямлі наеўся.

Трагічнаю была і гэтая паездка: за ім сочаць, браты — прыгонныя, сёстры — рабыні.

Але ж — радзіма тут.

«Няма на свеце іншай Украіны,

Няма на свеце іншага Дняпра...»

І на гэты раз яго арыштоўваюць — за падбухторванне сялян. І зноў сілаю разлучаюць з роднай зямлёю.

На радзіму душа спяшаецца і цела таксама.

А з радзімы цела едзе, а душа астаецца: яе не арыштуеш, не змусіш ехаць.

І яшчэ адзін раз ехаў ён на любую Украіну.

Чацвёрты і апошні — у труне.

Труна плыла між родных хат і палёў, між майскай травы і кветак, між свайго вясновага сонца, якое было такое шчодрае, а ён ніяк не мог у ім адагрэцца пасля настылага Пецярбурга, пасля Смаленскага цвінтара ў сталіцы, дзе яго пахавалі.

Па запавету Мудраца перавезлі на Украіну.

Нарэшце падаравалі яму родны край!

Нарэшце ён назаўсёды з'яднаўся са спрадвечнай сваёй зямлёю — на Чарнечай гары, непадалёку ад тых мясцін, дзе нарадзіўся і вырас...

Па ўсёй Украіне шукаю я жанчыну, яго каханую, — і не знаходжу.

Бо любіў ён усё Украіну — нібыта яна і была ягонай жанчынаю, ягонай каханаю.

Па ўсёй Украіне шукаю я, каму пакланяўся Паэт, хто быў яго насалодаю і захапленнем.

Шукаю і не знаходжу.

Бо слову ён пакланяўся і каленкаваў, бо творчасць, здаецца, была ягонаю жанчынаю.

Па ўсёй Украіне шукаю яго хату, — і таксама не знаходжу.

Бо ўся Украіна — яго хата.

І Чарнечая гара — яго хата.

Але і ў гэтай апошняй хаце не было спакою і суцяшэння — каля магілы крычалі, стагналі і плакалі людзі — усе тыя ж грэчкасеі і хлебажнеі: нялюдскія рэпрэсіі абрыналіся і на магілу, і на тых, хто да яе падыходзіў.

Баяліся, каб працалюбы і напраўду не паверылі, што на Чарнечай гары пахаваны Святы, які дапаможа, як гаварылі, усім здабыць волю.

Магілу руйнавалі, дэманстрацыі разганялі: конная паліцыя без шкадавання, злюцела біла нагайкамі па ядвабу і смушковых шапках, па плахце і шараварах, па чырвоных сцягах і па партрэтах Тараса Рыгоравіча — па твары цалялі, нягоднікі, па твары...

А ля магілы штораз трагічна вырасталі дзве постаці — Лікер'і Палусмакавай і Івана Ядлоўскага: адна — да руйнавання, другая — пасля руйнавання; адна — уся ў чорным, як прывід; другая — заклапочаная, з закасанымі рукавамі: магілу трэба было зноў камусьці жывіць.

Дзе яшчэ, скажыце, можна ісці вышэй верхавін дрэў?

А тут вось іду — пада мною, пад нагамі голыя, абледзянелыя, аж звіняць! — сукі і галіны: каб было лета, можна было б нават пагладзіць пышназялёныя чубы.

Дзе можна ісці вышэй Дняпра — такое, мусіць, па сіле толькі снам ды самалётам.

Але там не ідзеш, а ляціш.

А тут вось іду вышэй Дняпра і нават адчуваю, як ён, заледзянелы, натужваецца, напінаецца, высільваецца, каб неўзабаве разламаць на сабе ільды.

Дык вось ты якая, хата Тараса Рыгоравіча на вялікай Чарнечай гары Украіны!

Вокнаў няма, а святло ад яе ідзе.

Сама цёмная, а як светла ад яе навокал!

Дзякуй табе, хата, што ты прылашчыла і супакоіла нарэшце такога спакутаванага чалавека!

Дзякуй табе, добрая зямля, за тое, што ён пажадаў застацца ў табе назаўсёды!

Усё ж у доўгай і зацятай барацьбе Паэт перамог Цара.

Яшчэ жывы — перамог жывога.

Але ўсе зразумелі гэта, калі цар стаў мёртвы.

Родны, зняможаны, але моцны народ скінуў з п'едэстала ў Кіеве Мікалая Першага, а на яго месца паставіў свайго цара — цара Тараса.

Свайго Бога.

І ўздыхнула з палёгкаю, і аж заплакала ад радасці яго верная і вечная каханая — Украіна:

— Цябе, Божа, хвалім мы!

Шчаслівы народ, у якога Бог ёсць!

## *Позірк у мінулае*

**Кастусь ТАРАСАЎ**



# Пятроўскія мясціны

**Некалькі сумных думак ля музейнага рарытэта**

Паколькі нас ніколі не вучылі шанаваць уласную гісторыю і два апошнія стагоддзі мы мелі агульнапрызнаны і непарушны правінцыйны статус, дык на грунце магутнага комплексу правінцыйнасці вельмі ганарымся, што нас наведвалі вялікія людзі з суседніх краін. Нібыта праз побыт славутых асоб у нашых гарадах і мястэчках мы далучаемся да першагатунковых еўрапейскіх народаў і настолькі тымі візітамі ашчасліўленыя, што ўвекавечваем памяць пра іх бронзавымі шыльдамі. Мо з такім разлікам, каб наступныя пакаленні пазайздросцілі надзвычайнай удачы сваіх прадзедаў і дзядоў.

Напрыклад, у цэнтры Полацка стаіць старадаўні мураваны дамок з шыльдай, якая паведамляе, што тут летам 1705 года жыў Пётр Вялікі. Пабываў расійскі самадзержац і ў Мінску, але тая хаціна на Юраўскай вуліцы, дзе ён браў прытулак, не захавалася, таму і паломніцтва да памятнай дошкі няма. Затое ў Дзяржаўным гістарычным музеі БССР на стэндзе, прысвечаным пачатку XVIII стагоддзя, маем мы муляж сцяга 4-й роты Праэбражэнскага палка, капітанам якога Пётр лічыўся. Захоўваецца тут і бясспрэчны рарытэт— бронзавы адбітак рукі рускага цара, выкананы пад час наведвання Пятром металургічнай мануфактуры ў Ліпецку. Зразумела, што большыня наведвальнікаў спыняецца каля гэтага экспаната, спакушаная жаданнем параўнаць сваю руку з царскай: у каго меншая, у каго большая, у каго такога ж памеру. Але няшмат знойдзецца асоб, хто мае падставу памерацца з царом па асабліваму прызнаку — па слядах нявіннай крыві на руцэ. Бо рука Пятра — гэта рука забойцы ў самым простым значэнні гэтага змрочнага слова. Уласнаручнае забойства нявінных людзей Пётр спраўдзіў у Полацку, але нашы дысталяваныя музейныя экспазіцыі і нашы па-правінцыйнаму сціплыя падручнікі гісторыі, справядліва ганьбуючы жорсткасць Геранімa Радзівіла ці Жыгімонта Вазы, абыходзяць маўчаннем чорныя ўчынкі стваральніка імперыі. Варта прыгадаць пра іх, але папярэдне трэба зрабіць невялічкі экскурс у тагачасныя абставіны.

Пасля смерці караля Яна Сабескага і напружанага змагання паміж сабой магнацкіх груповак на трон Рэчы Паспалітай быў абраны саксонскі курфюрст Аўгуст. Элекцыйны сейм адбыўся ў 1697 годзе. Упершыню польскім каралём і вялікім князем літоўскім стаў немец. Наступныя сем дзесяцігоддзяў вядомыя ў гісторыі Польшчы, Беларусі і Літвы як «саскія» часы — перыяд паступовага заняпаду федэратыўнага гаспадарства. Новы кароль нічога не зрабіў, ды і не надта хацеў рабіць дзеля захавання, і тым болей дзеля ўзмацнення дзяржавы. Аўгусту падабалася неабмежаваная манархія накшталт французскай. Але Рэч Паспалітая з'яўлялася шляхецкай рэспублікай, дзе кароль лічыўся першым сярод роўных і ніводнае яго рашэнне не набывала сілы без згоды сейма. Апошні ж стаяў за ахову так званых шляхецкіх вольнасцей, дзякуючы якім Рэч Паспалітая разбуралася, літаральна, на вачах. Кароль не меў рэальнай улады, Карона і Княства, магнацкія суполкі не мелі адзінства, дзяржава ператварылася, па сутнасці, у кангламерат буйных і дробных уладанняў, якія вялі бясконцую міжусобную *вайну, вельмі падобную на* міжусобіцы XII стагоддзя. Рэгулярнае моцнае войска адсутнічала, а тыя палкі, якія называліся *рэгулярнымі, паводзілі* сябе барзджэй як заклятыя ворагі народа і краіны, чым як іхнія абаронцы.

Таму Аўгуст песціў ідэю дынастычна замацавацца хоць бы ў Вялікім княстве, куды ўводзіў свае саксонскія палкі. Але тут меліся і ўплывовыя мясцовыя прэтэндэнты — Сапегі, для супрацьдзеяння якім шляхта стварыла канфедэрацыю так званых «рэспубліканцаў». Канфлікт паміж «рэспубліканцамі» і партыяй Сапегаў прывёў да хатняй вайны. Яшчэ ў 1695 годзе з Сапегамі пасварыўся Караль Радзівіл, канцлер Вялікага княства. Яго ўласная міліцыя заняла Капыль і Раманаў, што належалі Сапегам. Тыя сабралі ў адказ свае войска і выбілі радзівілаўцаў. Пакрысе варожасць набірала моцы. У красавіку 1700 года, калі Радзівіл, а разам з ім Міхал і Януш Вішнявецкія вярталіся з пасяджэння Трыбунала, на іх напалі людзі гетмана Казіміра Сапегі і ў сутычцы паранілі шаблямі. Як палкоўнік Наваградскага палка Радзівіл сабраў павятовую шляхту і заклікаў абараніць вольнасці ад Сапегаў. З гэтай мэтай ён выставіў за свой кошт тры харугвы цяжкай конніцы, харугвы татараў і гусараў, дзве харугвы случакоў і полк пяхоты. Да іх далучыліся са сваімі сіламі Агінскія, Вішнявецкія, Пацы, Пацеі, Коцелы і дробная шляхта. Усе з'ехаліся пад Ашмяны, войска, якое налічвала 20 тысяч, узначалілі Вішнявецкія і Коцел. Сапегі сабралі сваіх прыхільнікаў, прычым у іх было 9 тысяч наёмнікаў.

Адзначым, што ўжо пачалася Паўночная вайна, ужо Пётр «прасякаў вакно ў Еўропу», ужо шведы дэманстравалі нязломную сілу сваіх палкоў. У антышведскую кааліцыю ўваходзіў і кароль Аўгуст—адзін з ініцыятараў вайны, план якой ён абмяркоўваў з Пятром у 1698 годзе. 19 лістапада 1700 года пад Нарвай адбылася вядомая бітва паміж шведамі і рускімі, дзе войска Пятра пацярпела паражэнне. За некалькі месяцаў да Нарвы польска-літоўскае войска было разгромлена шведамі каля Рыгі. Няўдача пад Нарвай многаму навучыла Пятра. Паражэнне пад Рыгай ніяк не адбілася на магнацкім клопаце пра дзяржаўныя інтарэсы Вялікага княства. Бо ў той жа самы дзень, 19 лістапада 1700 года, здарылася другая бітва, у якой удзельнічала, мусіць, не менш людзей, чым у бітве пад Нарвай. На Віленшчыне каля Алькенікаў сышліся войскі Сапегаў і канфедэратаў. Жорсткі бой, акружэнне, якое ўдала правёў Агінскі, прынесла перамогу «рэспубліканцам». Харугвы Сапегаў рассеяліся, самі яны прымушаны былі эміграваць і ўвайшлі ў саюз з Карлам XII.

Братазабойчае сутыкненне нічога не змяніла і нічога не дало ні краіне, ні народу, толькі моцна знясіліла дзяржаву якраз напярэдадні шведскага наступу. Заможныя «рэспубліканцы», што ўчора заклікалі шляхту бараніць вольнасці, адразу па бітве пайшлі насустрач жаданню Аўгуста і высунулі праект аддзялення Вялікага княства ад Польшчы, каб стварыць тут спадчыннае каралеўства для Аўгуста і ягонага сына, якому было чатыры гады. Са згоды магнатаў на Беларусь і Літву ўвайшлі саксонскія войскі, увесь цяжар іх утрымання, зразумела, лёг на народ. Гэтая неразумная акцыя справакавала Карла XII на актыўнасць. Кагорты шведаў, адольваючы нязначнае супраціўленне, акупавалі Літву, разрабавалі Гродзеншчыну і рушылі на Польшчу. У 1702 годзе Караль Радзівіл заклікаў да коннага сейма і ўратавання Вялікага княства ад шведскай навалы. Сапегі як саюзнікі Карла XII арганізавалі сялянскія казацкія загоны, якія ўзначалілі Хмара, Юрэвіч, Більдзюкевіч. Яны змагаліся з апалчэннем «рэспубліканцаў» галоўным чынам на Магілёўшчыне. Шляхта і войскі Вялікага княства адпаведна рабавалі маёнткі Сапегаў. Нарэшце, пад Дуброўнам, сапежынскіх казакаў перамаглі, паклаўшы дзеля гэтага болей трох тысяч людзей. Такія перамогі былі толькі на карысць шведаў. Яўная ваенная перавага Карла XII падштурхнула канфедэратаў падпісаць ваенны саюз з Расіяй. Пётр I паабяцаў ім вайсковую і грашовую дапамогу. Рускае войска ўвайшло на Беларусь і Літву. Гэта былі значныя сілы—каля 60 тысяч салдат, падзеленыя паміж Меншыкавым і Агільві.

Галоўны тэатр ваенных дзеянняў знаходзіўся ў Прыбалтыцы, і Пётр накіраваўся туды з Масквы, каб непасрэдна ўзначаліць войска. Дзіўнае супадзенне, але цар дабіраўся да арміі тым жа шляхам, якім пяцьдзесят гадоў раней ехаў да войска яго бацька Аляксей Міхайлавіч — праз Віцебск і Полацк. Як насустрач цару Аляксею выходзілі праваслаўныя святары, так віталі яны зараз і Пятра. Як пры Аляксеі Міхайлавічу віцебскія і полацкія уніяты дрыжэлі ў падпечны, так адчувалі яны сябе і перад ягоным сынам.

Пётр I прыбыў у Полацк 10 ліпеня — у дзень сваіх імянін. З тае нагоды наладзілі святочны абед на катэры, што стаяў пасярэдзіне Дзвіны. Было тут шмат блізкіх да Пятра афіцэраў, баляваў з царом і будучы «рэйхс-маршал» Аляксандр Меншыкаў. А чацвёртай гадзіне, калі ўжо добра пагулялі і ўшанавалі імянінніка стрэламі з гармат, Пётр і ягоная світа нечакана накіраваліся ў Сафійскі сабор, якім валодалі уніяты. Апрача Сафіі, ім належалі пры ёй мужчынскі і жаночы манастыры і Барысаглебскі манастыр у Задзвінні. Пётр I, які не вылучаўся набожнасцю і сваю павагу да царквы не распаўсюджваў далей таго, што наведваўся туды без парыка, да уніятаў, аднак, ставіўся з вялікай суровасцю. Так, у Віцебску па яго загадзе былі пасечаны ўсе абразы з выявай Юзафата Кунцэвіча. Так што нічога добрага для сябе полацкія уніяцкія святары ад наведвання Пятром горада не чакалі. Больш за тое. Даведаўшыся пра маючы быць прыезд рускага цара, яны вывезлі з Сафійскай царквы ў Жыровічы срэбную труну з астанкамі кананізаванага ў святыя Кунцэвіча. Ахоўвалі яе ў дарозе харугвы з асабістага войска Караля Радзівіла.

Пётр з афіцэрамі ўвайшлі ў царкву пад час імшы. Простых вернікаў у храме не было, толькі шасцёра святароў і манахаў. Менавіта: вікарый полацкі Канстанцін Зайкоўскі, айцец Якуб Кнышэвіч, закрысціян Мялецкі Кандратовіч, прапаведнік Тэафан Калбечынскі, брат-прыслужнік Юзэф Анкудовіч, айцец Якуб Кізікоўскі, бліз таго дня прыбыўшы у Полацк з Вільні. Цар абвясціў, што яго цікавіць даўніна царквы св. Сафіі. Вікарый Зайкоўскі пачаў апавядаць гісторыю храма. Пры кожным алтары цар спыняўся, і Зайкоўскі тлумачыў паходжанне абразоў. Адчуваў вікарый сябе не надта ёмка. Пётр меў 2 метры 6 сантыметраў росту, трымаў у руцэ тоўсты кій. Зайкоўскі быў на галаву ніжэйшы, яму прыходзілася глядзець уверх, ад пранізлівага, апальваючага позірка цара ён хваляваўся. У паветры вісела небяспека. Прыхаваная раздражнёнасць Пятра трымала яго ў напружанасці.

Нарэшце яны апынуліся каля алтара з абразом Юзафата Кунцэвіча. Тут цар, не хаваючы непрыязі, запытаў: «Што гэта за невядомы святы? Хто і калі яго кананізаваў? За што яго забілі?» Бог ведае, пра што думаў у тую хвіліну Пётр. Па натуры і характары Кунцэвіч быў нечым падобны да цара. Можа, Пётр і бачыў пэўную паралель, гледзячы на выяву св. Юзафата, які лічыў сілу, прымус, гвалт лепшымі сродкамі дасягнення сваёй мэты. Ведаючы прыёмы, якімі Кунцэвіч карыстаўся дзеля замены праваслаўя уніяцтвам, цяжка ўявіць больш непрыдатную асобу на ганаровы пасад першага святога грэка-каталіцкай царквы. Палітычная аснова беатыфікацыі Кунцэвіча была неаспрэчная. У любым выпадку вікарый Зайкоўскі не мог несці адказнасці за рашэнні князёў царквы. Пытанні Пятра паставілі яго на вастрыё нажа. Не адказаць цару ён не мог, хлусіць не меўся. Таму айцец Канстанцін паведаў, што святы Юзафат нарадзіўся ў праваслаўнай сям'і, але пад час вучобы ў Вільні прыняў уніяцтва, быў ігуменам Жыровіцкага манастыра, архімандрытам Троіцкага манастыра. Прызначаны архібіскупам полацкім, ён загінуў на сорак трэцім годзе жыцця ў Віцебску. «Хто ж яго забіў?»—перапытаў Пётр. «Забілі яго ў 1623 годзе віцебскія схізматыкі»,—адказаў Зайкоўскі.

Апошняе слова імгненна раз'юшыла Пятра, нібыта ён чакаў гэтага слова, каб выбухнуць гневам. «А, дык мы тыраны!» — грымнуў цар і ўдарыў айца Канстанціна кулаком. Святар упаў, тады Пётр пачаў біць яго кіем. *Потым выхапіў шаблю* і пачаў секчы вікарыя шабляй. Адначасна будучы «рэйхс-маршал» Аляксандр Меншыкаў *забіў палашом айца Тэафана* Калбечынскага. Афіцэры па прыкладзе самадзержцы пачалі рубіць Кандратовіча, Кнышэвіча, Анкудовіча. Апошняму пашанцавала выратавацца, бо ён ляжаў у лужыне крыві, прыкрыты зверху целам айца Якуба Кнышэвіча. Афіцэры палічылі яго нябожчыкам. Якуба Кізікоўскага, старога чалавека, узялі ў табар Пятра, дзе ўсю ноч дапытвалі пра месца захавання царкоўных скарбаў, а ранкам павесілі. Пётр загадаў павесіць і вікарыя Зайкоўскага. Потым усіх замардаваных у сафійскай царкве уніятаў спалілі, а попел кінулі ў Дзвіну, каб ахвяры злачынства не сталіся рэлігійнымі рэліквіямі для аднаверцаў.

Пра гэтае аўтадафэ, учыненае царом каля муроў полацкай святыні, у нас не прынята згадваць. Маўляў, хто ж без грэху. Пра спальванне цемрашаламі славутага філосафа Джардана Бруна знойдзецца дзесятак кніг у кожнай вясковай бібліятэцы, ніводзін падручнік не абыходзіць тую варварскую акцыю рымскіх інквізітараў. Не забыліся і мы адлюстраваць у музейных экспазіцыях пакутніцкую смерць ахвяры езуітаў Казіміра Лышчынскага. Канечне, Лышчынскі, Бруна ці спалены рускай праваслаўнай царквой пратапоп Авакум—постаці вялікія з шырокай вядомасцю сярод сваіх сучаснікаў і наступных пакаленняў, забыцца на іхнія імёны немагчыма. У параўнанні з імі уніяцкія святары з царквы св. Сафіі ў Полацку—асобы непрыкметныя, звычайныя людзі, якіх сотні тысяч. Але ж і зла яны нікому не зрабілі, аніякай віны за імі няма. Трапілі яны пад шаблі, на шыбеніцу, у агонь выключна за прыналежнасць да уніяцкай царквы. Лютасць да іх Пятра мела падвалінай палітычныя матывы, бо існаванне уніяцтва — царквы праваслаўнага абраду, але падпарадкаванай не маскоўскаму патрыярху, а рымскаму папе—пазбаўляла расійскіх самадзержцаў козыра ў прэтэнзіях на беларускія землі.

Паказальна, што пасля забойства айцоў-уніятаў Пётр даў загад на рабунак мужчынскага і жаночага базыльянскіх манастыроў. З Сафійскай царквы і з манастырскіх скарбаў гвалтаўнікі забралі тры тысячы залатых і ўсё, што мела хоць якую каштоўнасць. Заціраючы сляды свайго асабістага злачынства, Пётр загадаў зачыніць царкву св. Сафіі і ператварыў яе ў склад вайсковай амуніцыі. Трымалі тут і коней, і порах, а ў 1710 годзе напярэдадні таго дня, як рускае войска нарэшце пакінула Полаччыну, у Сафійскай царкве грымнуў выбух, які даканаў сямісотгадовы будынак. Царквы, якую пабудаваў Усяслаў Чарадзей, куды прыходзілі св. Ефрасіння, Скарына, Васіль Цяпінскі, дзе полацкія ваяры маліліся перад паходам на Грунвальдскую бітву, дзе прагучала за стагоддзі незлічонае мноства малітваў, гімнаў, падзяк, — гэтае царквы не стала. Бо *новая Сафійская царква,* што ўзнікла на старажытных падмурках у 30-х гадах XVIII стагоддзя, будавалася архітэктарам Глаўбіцам у стылі беларускага барока і ўключае толькі рэштку сваёй папярэдніцы — крыху сцен, склеп, апсіду. Тая старадаўняя апсіда і помніць бляск шабель, чырвань крыві, мёртвага уніяцкага святара каля ног расійскага гасудара.

Наступным годам на Беларусь рушыў Карл XII. 40 тысяч шведаў агнём і мячом прайшлі мясцовасці і гарады, якія належалі прыхільнікам Аўгуста. Быў разрабаваны Пінск, трагічны лёс напаткаў Нясвіж, дзе месціўся рускі гарнізон з дзвюх тысяч казакаў. Горад спаліў у сакавіку палкоўнік Траўтветар, ў агні загінула большасць казацкага атрада. Праз кароткі час, разбурыўшы Карэлічы, Мір, Ляхавічы, Клецк, шведы вярнуліся і асадзілі Нясвіжскі замак. Мяшканцы не сталі абараняць яго і здаліся. Вораг вывез з замка ўсе каштоўнасці, узарваў бастыёны, перарыў валы, зруйнаваў горад.

Летам шведы прайшлі маршам Польшчу і разбілі саксонцаў пад Фраўштадтам. Аўгуст, як саксонскі курфюрст вымушаны быў замірыцца з Карлам XII. Альтранштацкі мір, заключаны ў верасні 1706 года, абавязваў яго не ўдзельнічаць ў антышведскай кааліцыі і прызнаць сапраўдным і паўнамоцным каралём Рэчы Паспалітай стаўленіка Карла XII Станіслава Ляшчынскага. Аўгуст пагадзіўся і з гэтым. Засцерагаючы свае маёнткі, большасць магнатаў Беларусі і Літвы стала на бок новага караля. Пацы, Вішнявецкія, Чартарыйскія, Радзівілы схіліліся да саюза са шведамі. Аднак канфедэрацыя шляхты Вялікага княства, узначаленая польным гетманам Рыгорам Агінскім, адмаўляла ўмовы Альтранштацкага міру і засталася вернай альянсу з Пятром.

Зімой 1707 года дывізія Агінскага стаяла ў Мінску. Начальнікам рускага гарнізона тут быў Шарамецеў. Гасцяваў у Мінску і Пётр I. Адзначана, што неаднойчы наведваў ён Петрапаўлаўскую (Кацярынінскую) царкву, якая і зараз аздабляе Нямігу, перарobленая ўжо ў наш час па пятроўскай модзе ў склад архіўных матэрыялаў. Яшчэ Пётр разам з Шарамецевым і Агінскім хадзілі ў езуіцкі калегіум, дзе іх пачціва прымалі і спецыяльна для цара дэманстравалі добрыя веды вучняў. Будынак калегіума захаваўся, у ім зараз музычная школа. Крыху і дзіўна, што дасюль яе не назвалі «домам Пятра», як тое зроблена ў Полацку. Ніводнага езуіта Пётр уласнай рукой не забіў. Хоць ён і не адчуваў да іх любові, аднак даў мінскім езуітам дазвол дабудоўваць фарны касцёл. У тое стагоддзе галоўным уніяцкім храмам Мінска была царква Святога Духа, якая месцілася на Высокім Рынку (сённяшняя плошча Волі). Побач стаялі мужчынскі і жаночы уніяцкія манастыры, яшчэ адзін манастыр базільянак знаходзіўся за ракой—называўся ён Святатроіцкім, адкуль і павялася назва Траецкага прадмесця. Гэтыя кароценькія тапаграфічныя звесткі неабходны, каб лепш уявіць невясёлыя для мінчукоў, асабліва для мінскіх уніятаў, падзеі, што прыпалі на люты месяц 1707 года.

18 лютага войска Шарамецева і дывізія Агінскага пакінулі горад. На развітанне Шарамецеў даў дазвол ар'ергарду на лупы, і некалькі дзён запар палкі лёгкай маскоўскай кавалерыі рабавалі мінскае жыхарства. У першую чаргу кавалерысты разрабавалі жаночы манастыр св. Троіцы. Тут яны не толькі ўсё ператрэслі і абшукалі, але павыбілі вокны, паламалі алтар, узарвалі падлогу. Пасля гэтага іхнюю прагу здабычы зведала Святадухаўская царква і нарэшце гараджане. Падпаліўшы горад, расійскія коннікі паехалі. Але праз дзень Мінск занялі калмыцкія палкі з Пятроўскага войска. Зноў была абрабавана царква св. Духа, дзе разнеслі закрыстыю, знялі аздобу з абраза Божай Маці, абчысцілі манастыр і гарадскія двары. Не паспеў горад апамятацца ад гэтага гвалту, як хваляй накацілі пятроўскія казакі. Ім ужо нічога не засталося ад папярэднікаў, дык казакі палезлі ў праваслаўную Петрапаўлаўскую царкву. Брацтва заклікала людзей да зброі, на Нямізе меў месца сапраўдны бой. Са Святадухаўскай царквы казакі пабралі тыя рэшткі, што засталіся пасля візітаў кавалерыі і калмыкаў. Абадраўшы да ніткі тыя двары, дзе не здолелі добра зачыніцца ці добра захаваць маёмасць, казакі пайшлі наўздагон за галоўнымі сіламі.

У 1708 годзе Карл XII вырашыў нанесці Пятру стратэгічны ўдар. Шведскае войска зноў з'явілася на Беларусі. Карл планаваў паход на Маскву і адпаведна выбраў маршрут цераз Магілёў. Тут шведы затрымаліся, рабуючы горад і нават цэрквы і касцёлы. З царкоўнага серабра Карл XII біў манету для выплаты запазычанасці войску. Паражэнне пры Лясной прымусіла Карла адмовіцца ад маскоўскага накірунку. Шведы павярнулі на Украіну. Саюзнікамі Карла XII выступалі кароль Станіслаў Ляшчынскі і гетман Мазепа. Аднак Ляшчынскі не прывёў войска, а Мазепа, якому здрадзіў палкоўнік Іскра, здолеў арганізаваць толькі дзве тысячы казакаў. 27 чэрвеня адбыўся Палтаўскі бой, які вырашыў зыход вайны.

Паўночная вайна каштавала Беларусі трэцяй часткі насельніцтва. Загінула ў баях, ад гвалту, голаду, эпідэмій каля мільёна чалавек. Праз паўстагоддзя пасля «патопу» край зноў напаткала разруха гаспадаркі, зноў зарасталі кустоўем палі, абязлюдзелі гарады і мястэчкі, зноў галеча апанавала вёску. Але і гэтая бяда нічога не змяніла ў палітычным жыцці Рэчы Паспалітай. Тут не маглі нават адмовіцца ад права «ліберум вета» на сеймах. Прусія, Расія і Турцыя рабілі ўсё, каб «вольнасць» захоўвалася, бо праз унутраныя інтрыгі і подкуп магнацкіх груповак «ліберум вета» дазваляла зрываць любую разумную прапанову на сейме, што было надзейнай гарантыяй ад перамен. І яшчэ адна акалічнасць давала ваяўнічым суседзям падставу для ўмяшання ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай — пытанне пра іншаверцаў. Прусія «хвалявалася» за пратэстантаў, Расія—за праваслаўных. Уніяты лічыліся рэлігійнымі ахвярамі, якія трэба было вярнуць ў лона іхняй маці—рускай царквы.

Можна не сумнявацца, што ўласцівыя Пятру энергія і рашучасць прыкончылі б уніяцкую царкву за некалькі гадоў. Але пасля няўдалага Пруцкага паходу 1710 года, дзе расійская армія на чале з царом была разбіта туркамі, Турцыя запатрабавала, каб рускія войскі пакінулі Вялікае княства і Польшчу, інакш яна распачне ваенныя дзеянні. Паколькі Паўночная вайна яшчэ цягнулася, а заваёву Балтыйскага ўзбярэжжа Пётр лічыў справай больш важнай, ён вымушаны быў вывесці рускія гарнізоны з беларускіх гарадоў. Аднак жах, зведаны уніятамі, пайшоў на карысць не праваслаўнай, а каталіцкай царкве, бо тая частка шляхты, якая вагалася ў сваіх рэлігійных сімпатыях, прыняла каталіцтва.

Небагата логікі ў тым, што мы, аздабляючы будынкі памятнымі дошкамі ў гонар адных каранаваных заваёўнікаў, не ўшаноўваем другіх. Магчыма, мы адчуем сябе больш значнымі на гэтым свеце, калі, апроч тых шыльдаў, што ўжо прыбіты на помніках архітэктуры і на рагах вуліц, з'явяцца новыя ў памяць Карла XII, Напалеона, графа Мураўёва, Аляксандра I, якія не менш вядомыя ў гісторыі, чым Пётр I. Адразу прыбавіцца экскурсійных маршрутаў, і відочна ўзрасце пачуццё нашага правінцыйнага гонару за родны край, які, як магніт, прыцягваў да сябе столькі славутых гістарычных асоб.

## З паэтычнай пошты

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

### *Меліяратары... душ*

Дзе ні гляну — канавы,
каналы...
Не пустыня, адкуль жа
ўзяліся?
Можа, гэта рачулкі сканалі,
слёзы іх расцякліся?

Разлічылі дакладна
стратэгі-чынушы;
мелкія рэкі — мелкія душы.
Чым вузейшая рэчачка тая,
тым хутчэй зарастае
асакою, аерам, чаротам...
Стануць душы глухім балотам:
лезь, тапчыся там
чорным ботам!

Кані ўскрык над
здзічэлым лугам.
Боль у сэрцы, рубцы на целе:
як і рэчышчы, сталінскім
плугам
павыпростваць нам
душы хацелі.

Тройчы выклятыя Курапатамі,
шчыравалі, як д'яблы,
прывычна
рэканструктары-меліяратары
душ людскіх, першародна-
крынічных:
спеў бруісты крамолай
здаваўся,
чысціня ім сляпіла вочы...
Хто ўцалеў, хто з магілай
спаткаўся,
«варанком» раскатурханы
ўночы?

Разлічылі дакладна вар'яты-
клікушы:
прамыя рэкі — крывыя душы.
Чым цішэйшая рэчачка тая,
тым хутчэй зарстае
асакою, аерам, чаротам...
За чаротам жа — як за
дротам:
хто пачуе, адкуль ты родам?

Дзе ні гляну — канавы,
каналы...
Быццам слёзы наўсцяж
расцякліся...
Знаю: гэта рачулкі сканалі,
пад прымусам
імён адракліся.

О, падзёншчыкі зналі, ім
выпала ўцяміць:
знямелыя рэкі — знямелая
памяць;
знямелая памяць—
змярцвелыя душы;
змярцвелыя душы —
позірк патухшы;
позірк патухшы —
халодныя сэрцы,
не сэрцы — ўсяму зняверцы!
Халодныя сэрцы —
чорныя рукі;
чорныя рукі — ні жалю,
ні мукі;
кроў халодная
ў жылах цячэ!

...Гэта чую
і сёння яшчэ!

# Жыць у сваім доме

(Пачатак на стар. 4).

таксама, што рэспубліцы, як суб'екту федэрацыі, належыць і пэўная частка залатога і алмазнага запасу краіны.

**— Вы не дапускаеце думкі, што пры такой дзяльбе некаторыя рэспублікі адчуюць сябе пакрыўджанымі?**

— Дамовіцца паміж сабой заўсёды можна.

**— Дэкларацыя прадугледжвае стварэнне сваёй банкаўскай сістэмы. Між тым, падобная ініцыятыва Вярхоўнага Савета Расіі выклікала крайняе незадавальненне Прэзідэнта, які выдаў з гэтай нагоды спецыяльны ўказ...**

— Я бачу ў гэтым нежаданне ці, хутчэй, няздольнасць пазбавіцца стэрэатыпаў унітарнай, таталітарнай дзяржавы, максімальнай канцэнтрацыі ўлады. Мы, па сутнасці, не маем зараз свайго банка. Ёсць толькі філіялы ці аддзяленні Дзяржбанка СССР. Фактычна рэспубліка не ўдзельнічае ў падаткаабкладанні ні насельніцтва, ні прамысловых прадпрыемстваў, ні калгасаў і саўгасаў. Большую частку плацяжоў, адлічэнняў Беларускае аддзяленне дзяржбанка пераводзіць у Маскву, дзе ім і даюць рады. Трэба да таго яшчэ мець на ўвазе, што Дзяржбанк падначалены Савету Міністраў СССР, які і вырашае, куды, на якую чарговую «будоўлю веку» гэтыя грошы выдаткаваць. Ну а калі іх усё-такі не хапае, урадам прымаецца пастанова аб чарговай эмісіі грошай, якая вядзе да росту інфляцыі, далейшага развалу эканомікі.

**— Колькі Беларусь павінна адлічваць грошай у саюзны фонд?**

— Цэнтр патрабуе — недзе 15—20 працэнтаў ад нацыянальнага даходу. На перагаворах мы сказалі, што гэта грабеж сярод белага дня. У нашым праекце саюзнага дагавора прадугледжана ўтварэнне нацыянальнага банка, падпарадкаванага Вярхоўнаму Савету рэспублікі, стварэнне сваёй фінансава-крэдытнай сістэмы. Мы лічым таксама, што маем права на стварэнне ўласнай грашовай сістэмы.

**— Як вядома, на тэрыторыі Беларусі размешчана шмат ваенных аб'ектаў, у тым ліку ядзерных. У 10-м артыкуле Дэкларацыі гаворыцца, што Беларуская ССР ставіць мэтай зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а рэспубліку нейтральнай дзяржавай. Ці знойдзе гэтая ідэя адлюстраванне ў саюзным дагаворы?**

— Мы будзем на гэтым настойваць. У СССР цяпер ці не самая вялікая армія ў свеце. Напрыклад, у нас адзін салдат прыпадае на 56 жыхароў, у ЗША — на 126, у ФРГ — на 380, Кітаі — на 500 жыхароў. Калі зараз нехта пачынае гаварыць аб стратэгічнай абароне, мне, ракетчыку па прафесіі, становіцца, дальбог, смешна. Трэба разумець, што дастаткова выпусціць па кожнай з нашых атамных электрастанцый па дзве крылатыя ракеты, каб знішчыць увесь свет. Да такой высновы можна было прыйсці пасля чарнобыльскай аварыі, дзе выкід радыеактыўных рэчываў быў роўны ці не 200-ам хірасімскіх бомбаў. І гэта пры тым, што на Чарнобыльскай АЭС рэактар усё-такі не выбухнуў.

Нам пажадана не процістаянне двух лагераў, а калектыўная бяспека. Што тычыцца арміі, дык, каб забяспечыць неабходную абарону, цяпер, у пераходны перыяд, на нашу думку, трэба весці гаворку аб стварэнні спецыяльнага прафесійнага кантынгенту, падначаліўшы яго аб'яднанаму камандаванню суверэнных дзяржаў, якія ўваходзяць у Саюз. Маюцца на ўвазе стратэгічныя ракетныя войскі (вядома, не ў цяперашнім аб'ёме), супрацьракетная і супрацьпаветраная абарона, ваенна-марскі флот акіянскага базіравання, аб'яднаны інстытут стратэгічных даследаванняў у ваеннай галіне (усё пералічанае ў рамках дастатковай абароны).

**— Не так даўно ў «ЛіМе» быў надрукаваны артыкул кадравага ваеннага, у якім ён узнімаў пытанне аб стварэнні нацыянальнага войска.**

— Я прыхільнік таго, каб мець у рэспубліцы свае войска на прафесійнай аснове, вядома, таксама ў разумных памерах. Напрыклад, на Беларусі пры яе насельніцтве ў 10 з паловай мільёнаў такое войска магло б мець 50—75 тысяч чалавек. Гэта значыць, 150—200 жыхароў на аднаго ваеннаслужачага. Акрамя гэтага, нам, вядома, спатрэбяцца сілы аховы грамадскага парадку—міліцыя, унутраныя войскі, служба аховы Канстытуцыі (замест цяперашняга КДБ). Гэта ўсё разам яшчэ 50 тысяч чалавек. Вядома, усе гэтыя органы павінны быць дэпалітызаваны, служыць народу, а не быць, як КДБ, штурмавымі атрадамі партыі, а то і пэўных асоб.

**— Я выкажу тут, Уладзімір Мікалаевіч, адну крамольную думку. Калі ўсё, пра што мы гаварылі, і знойдзе месца ў саюзным дагаворы, дзе гарантыя, што мы зможам усё гэта ажыццявіць у сябе ў рэспубліцы? Пакуль што рэальная ўлада ў руках КПБ з яе шматлікімі структурамі, кансерватыўным мысленнем і да т.п.**

— Так, скідваць з рахунку супраціўленне кансерватыўных сіл, вядома, нельга. Дарэчы, процідзеянне гэтае можа набываць самыя розныя формы. Днямі я прачытаў у «Известиях» інфармацыю, якая мяне вельмі засмуціла. У ёй паведамлялася аб стварэнні ў рэспубліцы асацыяцыі прамыслоўцаў, якая вельмі амбіцыёзна заяўляе, што без яе ўхвалы не павінен быць прыняты ніводзін закон. Можна здагадацца, што партыйнаму апарату захацелася стварыць у рэспубліцы паралельны Вярхоўнаму Савету заканадаўчы орган. А як жа, спытаеце вы, воля народа, які наш Вярхоўны Савет выбраў?

**— Ініцыятараў гэтага новага ўтварэння воля народа цікавіць менш за ўсё...**

— Але будзем аптымістамі. Неўзабаве Вярхоўным Саветам будзе прыняты яшчэ адзін, на маю думку, вельмі важны дакумент — Дэкрэт аб уладзе. Пры яго падрыхтоўцы былі прадстаўлены розныя варыянты, у тым ліку і мой. Дэкрэт аб уладзе павінен стаць яшчэ адным зыходным дакументам для стварэння новай Канстытуцыі рэспублікі. У аснове дэкрэта ляжыць прынцып размежавання заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады. Частка дэпутатаў, у тым ліку і я, прапанавала поўную дэпалітызацыю ўсіх праваахоўных органаў — міліцыі, КДБ, суда і пракуратуры.

**— Вы спадзяецеся, што гэта «пройдзе» пры цяперашнім складзе Вярхоўнага Савета?**

— На гэта спатрэбіцца час, але вельмі важна вызначыць гэтыя прынцыпы, абнародаваць іх. Дарэчы, члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета, якія ўваходзяць у апазіцыю, маюць намер прапанаваць гэтыя пытанні для абмеркавання на пазачарговай сесіі Вярхоўнага Савета.

**— Мне застаецца пажадаць вам і вашым таварышам поспехаў. Дзякуй вам, Уладзімір Мікалаевіч, за цікавую гутарку.**

## З далёкіх і блізкіх дарог

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

# УСЯГО ГАДЗІНА РОЗНІЦЫ...

## А ў Львове— свая падзея

ПУЦЁЎКІ «гарэлі». Розныя прычыны вымушалі людзей адмаўляцца ад заваблівага падарожжа ў Венгрыю. Нават — неспакойнае палітычна-эканамічнае надвор'е ва ўсходняй Еўропе. Сама чула: ехаць, маўляў, за блізкі свет, каб потым амаль два тыдні пакутаваць?

Аднак жа супрацоўнікі апарату Саюза журналістаў, запрапанаваўшы мне пуцёўку, ад якой адмовіліся ўжо ажно два чалавекі, угаворвалі: «І вы яшчэ раздумваеце! Гэтую турпаездку рэспубліканскі саюз «прабіваў» праз Маскву для найбольш актыўных і прадстаўнічых сваіх сяброў! Вы едзеце ў прыгожы і цывілізаваны край! Саюз аплачвае амаль палову выдаткаў! І глядзіце: досыць рэспектабельная група падбіраецца: 36 чалавек з усяе Беларусі — сакратары пярвічных арганізацый, загадчыкі аддзелаў, галоўныя рэдактары...»

Дасведчаныя браткі-газетчыкі, журналісты радыё і тэлевізійшчыкі, глянуўшы на спіс групы, маглі б усклікнуць: «Ба, знакомые всё лица!» Так, Н. Булдык, С. Гульянц, Ж. Залозная, Э. Луканская, Т. Малмыга, І. Герасюк, С. Крапівін, У. Напрэеў, А. Фомчанка, П. Шаўчук... За кіраўніка ехаў рэдактар шматтыражкі «Трактор» З. Шарамецьеў, які быў у Венгрыі 17 гадоў таму.

Чым бліжэй да ад'езду, тым лепшы рабіўся настрой. Калі б яшчэ не падкінуў нам пару «парсюкоў» манапольны, безальтэрнатыўны, а таму бесканкурэнтны і бязгрэшны, «Інтурыст»... Па-першае, у поездзе мясцовага (!) фарміравання «Мінск — Львоў» нам былі заказаны білеты ў плацкартны (?!) вагон — маўляў, купэйныя ўжо закупілі, гэтаксама і на зваротную дарогу. Па-другое, у Львове, дзе мелася перасадка на поезд «Масква — Будапешт», мы гэткімі беспрытульнымі мусілі цягацца па горадзе ажно 12 гадзін. («Зімой ды восенню бранiруем на групу два штабныя пакоі ў гасцініцы і заказваем экскурсію па горадзе, а лета ёсць лета...» — удакладнілі інтурыстаўскія агенты).

Балазе, багаж мы сяк-так уладкавалі ў агульную камеру на львоўскім вакзале, дый з надвор'ем пашанцавала: абышлося без дажджу. Без абеду, увогуле, таксама абышлося. Скардзіліся нашыя людцы, што дзверы прыстойных рэстаранаў былі замкнёныя, а харчоўка дэмакратычных кафэ ды сталовак сваім падазрона неапетытным духам перабівала ўжо і думку аб тым, каб пад'есці... Сама я, праўду сказаць, не ахвотніца да ежы і ад смагі не пакутую нават у спёку, так што галоўны мой клопат быў— «паздароўкацца» са знаёмым горадам.

Апошні раз была тут у маі 85-га. Мінула перабудовачная пяцігодка. І сёння, як падалося на свежае вока, Львоў, такі шматпакутны ў мінуўшчыне сваёй, такі «аўстра-польска-германскі» абліччам, — сёння галасна, кожным куточкам сцвярджае сваю украінскую годнасць.

Праўда, і пяць, і дзевяць гадоў таму на львоўскіх вуліцах, у парках, у трамваях, у кавярнях і крамах руская гаворка, памятаю, чулася тут не часцей, як у Мінску... беларуская; не кідаліся ў вочы шыльды, аформленыя па-руску. І цяпер тое ж. Ды яшчэ неба над Львовам літаральна спавілі нацыянальныя сцягі. Жоўта-блакітнае палотнішча і над оперным тэатрам, дзе прэм'ерай вердзіеўскага «Атэлы» (дарэчы, у сцэнаграфіі добра знаёмага і нашаму тэатру Я. Лысыка) завяршаўся чарговы сезон, і над ратушай, і над аглядальнай пляцоўкай на замкавай гары...

На цэнтральных вуліцах вяртлявыя дзецюкі прапаноўвалі за **карбованець** газету «Маладыя нацыяналіст». З вітрын, з маляўнічых плакатаў і шчытоў на тратуарах, на бульварах, пад лозунгам «Украінцы ўсіх краін, яднайцеся!» паведамлялася пра шматдзённыя стадыённыя ўрачыстасці, прысвечаныя 100-годдзю украінскай эміграцыі ў Канадзе. А ў кавярнях ды гастраномах за спінамі прадаўцоў гучна вяшчала радыё — трансліравалася пасяджэнне ўкраінскага парламента, які акурат у той дзень, 16 ліпеня, прымаў Дэкларацыю аб самастойнасці рэспублікі і авацыяй вітаў уласнае рашэнне.

Збочыўшы да кафетэрыя, мы з калегаю апынуліся за кавай побач з маладымі львоўцамі— мужам ды жонкай. Ён яшчэ адкаркаваў і бутэлечку піва, хацеў наліць сваёй спадарожніцы, ды яна рашуча запярэчыла. Той ледзь не ўзмаліўся: ну, хоць сімвалічна! Свята ж... Жонка здзівілася, адсунула кубачак з кавай: якое свята? Абвясцілі **самасційнасць**, па радыё пачуў,— адказаў муж, лінуў трошкі піва ў жончыну шклянку, і яны ціха і шчыра «чокнуліся».

Мабыць, тая парламенцкая падзея і была для Львова галоўнай навіной дня. Ну, а для нас яна сталася адным са шматлікіх уражанняў ад спаткання з горадам, якое цягнулася ад ранку ледзьве не да прыцемкаў.

Мы паслухалі абласныя радыёнавіны, набылі мясцовыя газеты.

Даведаліся пра перайменаванне (паводле рашэння гарсавета) плоймы вуліц. Доўгая тлумная «Першага травеня», хоць і трымала на сваіх камяніцах старыя шыльдачкі (мо і дасюль іх церпіць), ужо звалася «Гарадзенскай»; вуліца Фрунзе, з улікам меркавання Яўрэйскага нацыянальнага культурнага таварыства імя Шалом-Алейхема, зрабілася «Стараяўрэйскай»... Мяняюся добры дзесятак назваў.

Пабачылі працяг спісу асоб, рэабілітаваных УКДБ і пракуратурай Львоўскай вобласці паводле Указа Прэзідыума ВС СССР ад 16.01.89 г.,— венгры і яўрэі, украінцы і палякі, цяперашнія жыхары (і ўжо досыць старыя людзі) Цярнопальшчыны і Брэстчыны, Кракава, Будапешта і Львова, Германіі, Чэхіі...

Пачыталі пра клопаты Рускага таварыства імя А. Пушкіна (распрацоўка канцэпцыі рускага універсітэта ў Львове; удзел у Святках і ў Шаўчэнкаўскіх днях; правядзенне малебна святому благавернаму князю Аляксандру Неўскаму...).

Звярнулі ўвагу на гарсаветаўскія спрэчкі вакол гістарычнага будынка, узведзенага некалі магістратам для гарадскога мастацка-прамысловага музея, з 50-х гадоў аддадзенага пад філіял Цэнтральнага музея У. І. Леніна, а сёлета «перапрафіляванага» ў грамадска-палітычны і культурны цэнтр імя Леніна. У рэшце рэшт яго мяркуюць перадаць на баланс Львоўскага гісторыка-культурнага запаведніка для размяшчэння там музея старажытнаўкраінскага мастацтва. Тады вызваліца цяперашняе сховішча старажытных скарбаў — Армянскі грыгарыянскі сабор, і трохтысячная армянская рэлігійная абшчына Львова зможа скарыстаць гэты дзівосны помнік архітэктуры па прызначэнні.

Хутка мы страцілі цікавасць да прэсы, бо тое, што пабачылі ў цэнтральным скверы на праспекце У. І. Леніна, не адлюструе ніякая газета. Нездарма параўноўваюць яго з Гайд-паркам. Панядзелак, разгар дня,— а таўчэцца люд!

«Карабейнікі» гандлявалі самаробнымі фотарэпрадукцыямі партрэтаў украінскіх гетманаў, значкамі з нацыянальнай сімволікай па чатыры карбованцы, ксеракопіямі «Малітвы за Украінскі народ». А стэнды! А транспаранты! Яны ўслаўлялі Ісуса Хрыста і запрашалі ў прыгарад на ўрачыстую закладку першага каменя новага грэцка-каталіцкага храма. Выкрывалі колішняга апаратчыка, які, прылучыўшыся да «руху», быццам бы зрабіўся шпіёнам, і паведамлялі, што «цэй шпыгун жывэ: вулыця Маяковського, 20...», ды заклікалі да расправы. Знаёмілі з табліцай «Буйнейшыя краіны Еўропы», дзе першае месца ў даўгатым слупку займала... Украіна.



Ад некаторых, я сказала б, крыважэрных заклікаў ды абвестак рабілася проста ніякавата. Затое вось гэта выклікала ў мяне сімпатыю, і я перапісала:

«Борці за Украіну — не вживайте нікотину!».

«Увага! Тютюновий дим містить радіоактивні ізотопи полонію —210, вісмуту(...). Геть тютюновий Чорнобиль!»

«Люди Кожні 100 гр. горілкі вбівають 7500 активно працюючих клітин головного мозку! (...) Геть алкоголь—вбівцю розуму!»

...Наступныя занатоўкі ў блакноціку я рабіла ўжо ў купэ, калі мы рушылі на Будапешт.

## «Советских туда не селят»

СЦЯМНЕЛА хутка: горы. Я ўпершыню ехала праз Карпаты і спачатку пашкадавала, што ноч не дазволіць падзівіцца на прыдарожныя краявіды. Але дарэмна думала, што шлях будзе сонны ды сумны. Спаць не хацелася. Расхінуўшы дзверы сваіх келляў, браткі-журналісты з дзіцячай цікаўнасцю снавалі з купэ ў калідор, параўноўваючы малюнкі ў акенцах. Злева насоўваліся кудлатыя бакамі горы. Справа бліснула рэчка. Злева ў прыцемках — вузенькія вежы стажкоў на пракосе, а над імі зоркі. Справа ў даліне міготкімі рыжымі вугольчыкамі — вокны сяліб. (І як там людзям жывецца? Цягнікі над імі гэтак высока, нібы ў небе, грукочуць...)

Колькі захаплення было, як на пакручастай чыгунцы з'явіўся ланцуг тунеляў! Засвяцілася наперадзе неўразумелае паўкружжа, і вось ужо да яго паўзе змейка з яркіх квадрацікаў—а гэта ж галава нашага поезда на чале з цягніком.

Праз 4 ці 5 гадзін — пагранічная станцыя Чоп, і прасядзелі мы тут ледзь не да світання. Прайшліся па купэ таможнікі ды пагранічнікі. А потым — дасведчанаму чытачу можна і не тлумачыць — рабочыя мянялі пад саставам колы. Што-што, а чыгуначныя палотны ў нас зроблены з размахам. У Еўропе рэйкавыя дарогі вузейшыя. Вось і марнуецца час на тое, каб пад кожны вагон, адчэплены, прыўзняты дамкратам, падвесці і замацаваць «еўрапейскія» колы, дэманціраваўшы і адкаціўшы свойскія.

Глянулі мы ў акенца і заўважылі на суседнім пуці добра асветлены поезд (кірункам у Будапешт), адкуль выскоквалі людзі: відаць, напалохалі госці з таможні. Смех і грэх было глядзець, як тут жа ля вагона «зацяжарыла» нейкая цётка, няўклюдна запхнуўшы пад кофту скручаныя прасціны. Не пагрэбаваў яе вопытам і мужчына — увачавідкі раздаўся ад схаванай кантрабанды...

ПЕРШАЕ, што ўбачыла я пасля кароткага сну, схіліўшыся са сваёй верхняй паліцы да акна, — ляціць над полем бусел. Ужо «замежны». І сустракала нас добрае сонца, нескончаныя чарназёмныя нівы — з кукурузай, макам, збожжам, асляпляльным сланечнікам; рэдкія астраўкі дуброў, домікі пад чарапіцаю; а потым і парослыя лесам горы.

Сам Будапешт сустрэў кветкамі: пад шкляным дахам дэбаркадэра, куды ўкаціўся наш поезд, пагойдваліся на ланцугах драўляныя кашпо з чырвонымі мушкатамі. (Як іх паліваюць? Бачыла. Рабочы нясе на рэмені балон з насосам і з даўжэзным выгнутым, як у чайніку, носікам, якім дацягваецца да кветкі, і пампуе ваду).

Хоць радзіма «Ікарусаў» менавіта Венгрыя, мы адчулі сябе як дома, абступіўшы звыкла расфарбаваны чырванабокі аўтобус. Шафёр спрытна застаўляў багажнік нашымі торбамі, кіраўнік групы нават па-венгерску яму падзякаваў, а той, адказаўшы нешта, раптам нязмушанай рускай мовай з лёгкім акцэнтам прапанаваў адкрыць другі багажнік і частку рэчаў уладкаваць там. (Пазней, пад час экскурсій, шафёр калі-нікалі падказваў гіду рускія словы, напросту размаўляў з намі, а мы дзіву даваліся... Высветлілі: вадзіцель аўтобуса Валянцін — закарпацкі венгр, савецкі грамадзянін, які ўжо 10 гадоў працуе па дагаворы ў Венгрыі, абслугоўвае турыстаў з СССР).

Снеданне ў рэстаране новага будапешцкага мікрараёна пачалося «свецкай» размовай. «Сорам які! Тут людзі ядуць, а ён у трусах!» —выгукнуў адзін з нашых дзядзькоў, скрывіўшыся на афіцыянта. «Спакойна, гэта Еўропа. Па-першае, ён у шортах. Па-другое, на пляжы ці тое яшчэ будзе...» — уздыхнуў другі і наважыўся з'есці чаго-небудзь «замежнага». Праінструктаваныя мінскім «Інтурыстам»,мы ўжо ведалі, што снедаюць венгры па-еўрапейску. І, намазаўшы маселкам ды абрыкосавым джэмам лусту белага хлеба (чорнага, ці хаця б шэрага, за ўсе дні я так і не пабачыла нават у продажы), запіўшы гэта цеплаватай вадой з цытрынавым прысмакам, ужо камячылі папяровыя сурвэткі, як афіцыянт, зграбна фланіруючы паміж столікамі, панёс нам талеркі з амлетам...

ЗМУЧАНЫЯ бяссоннаю дарогай, мы ўжо гатовыя былі ехаць у бок знакамітага Балатона, возера, на беразе якога планавалася першая палова адпачынку. Але... Паводле праграмы мусілі перажыць экспрэс-агледзіны венгерскай сталіцы.

Напачатку, убачыўшы з аўтобуса шаравата-карычневыя высокія камяніцы ды фасады з бурай цэглы, я згадала «буржуазныя» кварталы даўняй сваёй знаёмай — Рыгі. А потым ужо успаміналіся каляровыя паштоўкі з сусветна вядомымі архітэктурнымі ансамблямі, краявідамі аднаго з найпрыгажэйшых гарадоў, у якім жыве сёння 2 з паловай мільёны... Масты цераз Дунай; фігура жанчыны з пальмавай галінкай ва ўзнятых руках — на гары Гелерт, будынак парламента, вежы Рыбацкага бастыёна, купал каралеўскага палаца...

Аглядалі Плошчу Герояў, парк, сабор святога Іштвана — велічны гістарычны комплекс, прысвечаны тысячагоддзю Венгрыі (1896 г.). Каюся: цяжкавата было слухаць гісторыю чатырнаццаці венгерскіх каралёў, чые каменныя статуі ўпрыгожваюць аркаду на Плошчы Герояў. Чамусьці найбольш уразіла фенаменальная чысціня на гэтай агромністай плошчы, уцягнутай у вір індустрыі турызму. (Стракатыя купкі разнамоўных людзей, фотааматары, гандляры паштоўкамі і часопісамі, хлапчукі з дошкамі-скэйтамі...) Я звярнула ўвагу на адасобленую постаць жанчыны, якая быццам бы нікуды не спяшалася, але здавалася не тое каб заклапочанай — засяроджанай. Падцягнутая, у дзелавым строі. Так магла б выглядаць (паводле нашых сацыяльных стандартаў), дапусцім, занятая працай пажылая цырульніца.



На фоне сціплага жытла... (І. ГЕРАСЮК і З. ШАРАМЕЦЬЕЎ).
Фота аўтара.

Ды ў руцэ яе быў някідкі дворніцкі рыштунак: венічак, злучаны з коўшыкам для смецця.

Гаспадыня плошчы няспешна шпацыравала па бруку і калінікалі, заўважыўшы на ім нешта лішняе, спрытна карысталася сваім няхітрым прыборам. Колькі доўжыцца яе праца тут: гадзіну? дзве? Як прыгожа робіць яна сваю празаічную справу. Міжволі ўспомніш пра сваіх суайчыннікаў, якія вымушаны шарахацца ад прыбіральшчыц і дворнікаў, каб не трапіць пад мокрую анучу, ці ў пылавое воблака, ці проста пад цяжкую руку і моцнае слова.

Ужо ў парку, захацеўшы нешта сфатаграфаваць, я захапіўшыся, апусцілася на калена і адразу паспачувала сваім светлым шараварам. Але — ці паверыце — не давялося нават страсаць пыл: асфальт не пакінуў на вопратцы ані пясчынкі!

Дробязі? Паспрабуй не зважаць на такія «дробязі», калі з іх складаецца агульная культура чалавека, грамадства, нацыі. Адзначаючы для сябе самыя розныя дэталі, якія выклікалі павагу да венграў, я думала, наколькі здолелі тамтэйшыя людзі прытушыць у сабе варварскія інстынкты ды памкненні. І думала гэтак часцяком. Калі за цалюткімі шыбамі вулічных тэлефонных кабін бачыла тоўстыя даведачныя кнігі, калі ў розных рэстаранах нам падавалі некляймёны (без ганебнага — «Общепит»!) посуд. Калі вока прывучалася бачыць чыстыя, неразмаляваныя сцены дамоў, платы, лаўкі... Праўда, у ліфце неяк заўважыла сарамяжлівую драпіну з трох літар: sex. Ды на мосце — фарбай — вокліч па-англійску: «PEACE!» («МІР!» — у нас такое не пішуць).

Нам паказалі помнік міністру шляхоў зносін; мы праязджалі праспект, які захаваў (ва ўсякім разе, на той час) імя Леніна. У рэкламе, самай рознай, мільгацела знаёмае па таварных этыкетках слова «Pannonia» — а гэта ж старажытнарымскае найменне Венгрыі. Яно не выкраслена з ужытку, хоць і прыходзілі рымляне на гэтую зямлю заваёўнікамі. Наогул, рэшткі рымскіх вайсковых лагераў, гарадоў мадзьяры дбайна захоўваюць і дэманструюць турыстам ці не з гонарам, як рэліквію нацыянальнай гісторыі. Быў гэты край і пад татарамі, і паўтара стагоддзя пад туркамі — і ў нацыянальным музеі экспануецца вялікі мусульманскі шацёр з усялякім начыннем... І ні ў кога, відаць, не ўзнікае хунвэйбінскага намеру «выцяць чужога ідала», выкінуць, стаптаць, спаліць, замяніць на іншага.

Нават чужы бажок успрымаецца чалавекам цывілізаваным не як сімвал варожасці, а як прадмет пэўнай культуры, дакумент свайго часу, рэальная часцінка аб'ектыўнай гісторыі. Горка думаць, што людзям нашай краіны ў самых розных сітуацыях не стае, як і не ставала, знакаў цярпімасці да аб'ектыўных фактаў гісторыі, знакаў плюралізму на простым побытавым узроўні. Мо таму і назвалі нас заходнія вастрасловы «народ з непрадказальным мінулым»?

УЖО ЗАЕХАЛІ ў Шыафок, курортны цэнтр на паўднёвым беразе Балатона, як раптам гід прыпыніла аўтобус: «Извините, у вас в документах почему-то написано «Отель «Лидо». Не может быть, чтобы вас туда поселяли: советских туда не селят. Я пойду узнавать».

Відаць, для нас, як для журналістаў, было зроблена выключэнне, і зажылі мы менавіта ў «Лідо» — атэлі, класнасць якога была пазначана трыма зорачкамі на шыльдзе. І адпачывалася ў ім няблага.

Гасцінічны пакой быў утульны і чысты. Аддаючы належнае бліскучай фантазіі шаноўнага калегі са штодзённай газеты, які надрукаваў свае венгерскія ўражанні ў форме ананімнага рукапісу, быццам бы знойдзенага пад гасцінічным ложкам у Шыафоку, я мушу аддаць належнае і аб'ектыўнасці. Пад бязногімі ложкамі ў нашым атэлі не тое каб знайсці або схаваць нешта было немажліва — нават руку прасунуць! Іх паліраваныя панелі патаналі ў суцэльным — на ўвесь пакой — мяккім кіліме, настолькі чыстым, што прыемна было ступаць басанож.

*На балконе, з якога бачыла*ся частка вуліцы, пляцоўка, перад уваходам у атэль, кавалачак возера з пляжам, стаяў круглы белы столік і пара чырвоных складных пластмасавых крэслаў. У нумары было дастаткова зручнай мэблі, свяцільнікаў, люстэркаў і разетак. Ванны пакой радаваў вока як узор чысціні і будаўнічай культуры. Ручнікі выглядалі, як новыя. І мянялі іх штодня. Усё іншае — шпалеры, сталы, тумбачкі, шафы — мяняюць, зразумела, куды радзей, але і яно выглядала досыць свежа. Адсутнічалі сляды алоўкаў, сцізорыкаў і да таго падобнай «зброі», якой забаўляюцца ў вольны час насельнікі савецкіх гасцініц.

«Рабі людзям тое, што хацеў бы, каб яны рабілі табе; *любі іх, шануй*». Відаць, гэтую старую мудрасць тут не занядбалі, паводле яе працуюць і жывуць, абкружаючы ўвагай і гасцей сваіх. На століку ў пакоі ляжаў «Новы Запавет», выдадзены на некалькіх мовах. І гэта не дробязь: адміністрацыя гасцініцы клапоціцца пра самае галоўнае —душу падарожніка. Ну, а камплекцік іголак-нітак побач з даведачнымі матэрыяламі ў фірменнай гасцінічнай папцы — гэта клопат пра элементарныя побытавыя патрэбы.

ШКЛЯНЫ хол атэля меў два выйсці — на вуліцу Пёцефі і на пляж. Людзі часцяком заходзілі з пляжа, прыладжваліся на мяккіх канапах, у крэслах пагаманіць, а то і памаўчаць. Вось зусім старая сівая кабета, у купальніку і з кійком, уладкавалася ў крэсле, выкурыла цыгарэту, зноў пакіравала, кульгаючы, на пляж. Сям'я размясцілася бліжэй да бара, трымаючы ў руках высокія тонкія шклянкі, пазірае на экран ТБ, толькі малы заняты сваім: перастаўляе фігуркі на шахматнай дошцы...

А што на пляжы?

Чыстая дагледжаная траўка, дакладней, белая канюшына, якую штовечар паліваў дзядок, цягаючы па дзірване шланг з распыляльнікам. Па беразе — радок маладзенькіх, у спелых гронках, арабінак. Бліжэй да вады своеасаблівае пакрыццё — бетон з галькай. Ёсць чырвона-белыя лаўкі, на якія і сесці прыемна, і глянуць: на іх не пішуць, не клеяць паперкі ад марожанага, аб іх не адкаркоўваюць бутэлькі і не тушаць цыгарэты.

Вада колерам нагадвае свіцязянскую. Даволі мяккая і цёплая (грэецца добра, бо глыбіня, як на Нарачы ці ў моры ля Юрмалы). Але бруднаватая. (Кажуць, эколагі ўжо ўстрывожыліся за стан Балатона). Краявіды непаўторныя: у ясны ветраны дзень па возеры бяжыць рабізна, а супрацьлеглы бераг цудоўна відаць, і яго абрысы нагадваюць густа забудаванае Крымскае ўзбярэжжа. На заходзе, калі той бераг патанае ў смузе, а яхтсмены яшчэ тузаюць на хвалях свае стракатыя ветразі,— поўная ілюзія, што глядзіш на мора. А ўначы Балатон — гэта аксамітная цемра і залацістыя пацеркі агнёў на ёй.

Было спярша прахалодна, *прайшла навальніца*. Праз дзень-другі надвор'е разгулялася, і многія, махнуўшы рукою на сваю журналісцкую дасведчанасць, забыліся пра «чарнобыльскую дыету» ва ўмовах павышанай сонечнай радыяцыі і бяздумна спальвалі сябе на пляжы.

**(Працяг будзе).**

# Рыгор КОБЕЦ



9 верасня 1990 года на 93-м годзе жыцця памёр пісьменнік, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Рыгор Якаўлевіч Кобец.

Р. Я. Кобец нарадзіўся 12 ліпеня 1898 года ў вёсцы Малыя Рагачыкі Кіравагradскай вобласці. Вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе, у рамесным вучылішчы. У першую сусветную вайну служыў у арміі, удзельнічаў у баях у Галіцыі. З 1918 года — у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў на Мінскім дражджавым заводзе. Уваходзіў у літаратурную групу «Звенья», у 1928—1930 гг. — супрацоўнік рэдакцыі газеты «Рабочий». З 1931 па 1935 год — кансультант на кінастудыі «Савецкая Беларусь» у Ленінградзе, пазней працаваў у газетах і на студыі кінахронікі на Далёкім Усходзе.

У друку пачаў выступаць з 1923 года. Напісаў п'есы «Гута», «Ратуй, божа!» (разам з А. Вольным), «А ўсё ж распяваю», «На заставе», «Мігрэнь» і іншыя. Па яго сцэнарыях пастаўлены мастацкія фільмы «Ураган» (1932, разам з Б. Брадзянскім), «Двойчы народжаны» (1934), «Шукальнікі шчасця» (1936, разам з І. Зэльцарам), «Дняпро ў агні» (1937, разам з І. Баранькам), музычная камедыя «Счастливый берег» (1940, разам з С. Бытавым). Выдаў кінааповесці «Герои Балтики» (Хабараўск, 1939), «Трофим Бутан» (Хабараўск, 1940).

Светлая памяць пра Рыгора Якаўлевіча Кобеца, пісьменніка, чалавека складанага, цяжкага лёсу, шчырага працаўніка на ніве культуры, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ.**

**САЮЗ КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ БССР.**

□

Здаецца зусім нядаўна мы адзначалі 90-годдзе Рыгора Якаўлевіча Кобеца. Да яго на кватэру прыйшлі тады прадстаўнікі двух творчых саюзаў, у якія ён уваходзіў, — пісьменнікаў і кінематаграфістаў. Прыйшлі таксама работнікі радыё і тэлебачання. Рыгор Якаўлевіч дрэнна сябе адчуваў, з ложка не ўставаў, і пагаварыць з ім як след, на жаль, так і не ўдалося. Пражыўшы доўгае жыццё і паспрабаваўшы ўсякага, ён яўна быў засмучаны такой вось увагай грамадскасці да сваёй асобы. І вось нечаканая вестка: Рыгор Кобец пайшоў ад нас. Не стала пісьменніка, публіцыста і аднаго з тых, хто стаяў ля вытокаў кінамастацтва рэспублікі. Больш паўстагоддзя таму гэты чалавек узначаліў сцэнарную справу на кінастудыі «Савецкая Беларусь». Па сутнасці ён быў першым прафесійным сцэнарыстам у беларускім кіно. Дзякуючы яго энергіі і таленту і з'явіліся на экранах лепшыя беларускія фільмы трыццатых гадоў — «Двойчы народжаны» і «Шукальнікі шчасця». Адзначым, прайшло столькі гадоў, і з названымі фільмамі не адбылося тое, што, як вядома, адбываецца з большасцю кінатвораў, — яны амаль не састарэлі. «Шукальнікі шчасця», напрыклад, час ад часу выходзяць на экраны, і карціну з цікавасцю глядзяць новыя і новыя пакаленні кінагледачоў.

У змрочныя часы сталінскіх рэпрэсій Рыгора Кобеца на многія гады адлучылі ад любімага кінамастацтва. Кінематограф рэспублікі панёс вялікую страту. Колькі таленавітых твораў не адбылося! Але тое, што засталося, што звязана з гэтым імем — Кобец, назаўсёды застанецца ў гісторыі нашага мастацтва.

**Анатоль КРАСІНСКІ.**

**Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка Рыгора КОБЕЦА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

# ЖЫВЕ ДУША ПАЭТА

**Светлым, як і яе паэзія, але вельмі кароткім было жыццё беларускай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц. У памяці сяброў і паклоннікаў яе таленту яна засталася добрай, усмешлівай, спагадлівай, якая ўмела напісаць на адным дыханні: «У журбы спытаць каторай, па якой мы плацім мерцы? Соль жыцця не толькі ў творах — соль, — яна на самым сэрцы!»**

**Савет Міністраў БССР прыняў пастанову «Аб увекавечанні памяці Я. І. Янішчыц». На яе магіле будзе ўстаноўлены помнік. Саюз пісьменнікаў і Дзяржкамдрук БССР выпусцяць збор твораў паэтэсы.**

**КАР. БЕЛТА.**

***Калектыў выдавецтва «Мастацкая літаратура» глыбока смут*куе з прычыны заўчаснай смерці былога дырэктара, члена СП БССР Міхаіла Фёдаравіча ДУБЯНЕЦКАГА і выказвае спачуванне сям'і, родным і блізкім нябожчыка.**

**Саюз тэатральных дзеячаў БССР глыбока смуткуе з прычыны трагічнай смерці члена Саюза, саліста Дзяржаўнага камернага аркестра БССР ПРЫХОДЗЬКІ Аляксандра Аляксандравіча і выказвае шчырае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.**

